
Беата Кендысь ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Новыя падручнікі ➔5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 02 (3322) Год LXV | Беласток, 12 студзеня 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Жыхары супраць планаў здабычы торфу

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

**Жыхары Гародчына, Ляхоў і суседніх вёсак 28 снежня 2019 года сустрэліся з прадстаўнікамі суполкі «Вокас» з Лосіц, якая бярэ ў арэнду і скупляе зямлю ад сялян і плануе здабыванне торфу ў Нараўскай і Чыжоўскай гмінах. У спатканні прынялі ўдзел войт Нарваўскай гміны Андрэй Пляскові̇ч і сем гмінных радных. Мясцовыя гаспадары і іх сямейнікі, а таксама пенсіянеры прыбылі ў вясковую святліцу ў Гародчыне, каб больш даведацца пра спосаб здабычы торфу і звязаныя з гэтым адмоўныя паслядоўнасці. У канцы спаткання выдатная большасць мясцовых жыхароў прагаласавалі супраць планаванай інвестыцыі па здабычы торфу ў наваколлі сваіх вёсак.**


Выдатная большасць жыхароў прагаласавала супраць планаў здабычы торфу

Спатканне адкрыў войт Нарваўскай гміны Андрэй Пляскові̇ч, які прадставіў інфармацыю аб планах суполкі «Вокас» з Лосіц па здабычы торфу на сельскагаспадарчых угоддзях па-суседску вёскі Гародчына. Частка палёў, якія ўзяла ў арэнду або купіла суполка «Вокас», распалажана на тэрыторыі вёскі Кленікі Чыжоўскай гміны. Аднак гэтыя палі знаходзяцца ў невялікай адлегласці ад палёў сялян Нарваўскай гміны. Рада Чыжоўскай гміны прыняла ўжо адпаведную пастанову і пачаўся там працэс змены планаў прасторавага добраўпарадкавання так, каб выключыць з сельскагаспадарчага выкарыстання зямлі, на якіх мела б адбывацца здабыча торфу. Рада Нарваўскай гміны запрапанавала грамадскія кансультацыі ў згаданай справе ў вёсцы Гародчына.

Старшыня суполкі «Вокас» Дар'юш Вайцешук паінфармаваў, што ягонае прадпрыемства займаецца здабычай торфу, крэйды, пяску і жвіру. Робіць гэта ў некалькіх ваяводствах. На Падляшшы здабывае торф у Міхалоўскай гміне. Свае прадукты прадае між іншым у магазінах «Бядронка» і «Лідль». На тэрыторыі Нарваўскай і Чыжоўскай гмін суполка ўзяла ўжо ў доўгатэрміновую арэнду дзеля здабычы торфу або купіла дзясяткі гектараў зямлі. Канчаткова плануе здабываць торф на 170 гектарах зямлі і прыняць на працу пры здабычы торфу 20-30 мясцовых жыхароў. Старшыня Вайцешук пераконваў, што яго суполка пасля эксплуатацыі радавішча торфу правадзіць рэкультывацыю кар'ераў, прыкладам чаму з'яўляецца вадаём «Імшар II» у Міхалоўскай гміне, які прычыняецца да павышэння ўзроўню вады ў глебе ў яго наваколлі. Аднак сабраныя звярталі ўвагу, што дзякуючы вадзе ў торфе навакольныя палі ўтрымліваюць вільгаць і апасаліся, што пасля выкапання торфу глеба высахне.


Старшыня суполкі «Вокас» Дар'юш Вайцешук адказваў на пытанні і стараўся пераканаць да інвестыцыі

— Я згодны з вамі, што ў торфе затрымліваецца вада. Аднак вадаёмы, якія мы будуем на месцы кар'ераў, дзе выбярэм торф, таксама спрычыняюцца да трымання на вышэйшым узроўні вады ў іх наваколлі, — тлумачыў Дар'юш Вайцешук.

— Я не веру, што вада па-суседску з вадаёмам, які паўстаў бы ў тарфяным кар'еры, будзе трымацца на такім самым узроўні, як перад здабычай торфу. З нашых пясчаных палёў яна сплыве спачатку на месца, дзе будзе выбірацца торф і сельскагаспадарчыя ўгоддзі пачнуць у нас засыхаць, — гаварыла Раіса Бэнэдычук з Ляхоў, якая паінфармавала, што яна закончыла адпаведную адукацыю і разбіраецца ў меліярацыйных справах.

У Ляхах ёсць чатыры буйныя жывёлаводы, якія з вясны да восені пасвяць кароў на лугах і калі тыя павысыхаюць, не будзе на чым пасвіць быдла. Земляробы з Гародчына і Ляхоў перш за ўсё апасаюцца, што здабыча торфу пацягне за сабою паніжэнне і так невысокага ўзроўню вады ў глебе і можа стаць прычынай яшчэ большай засухі на лугах і палях, што прывядзе да скарачэння расліннай вытворчасці і жывёлагадоўлі.

Адказваючы на пытанні сабраных старшыня суполкі «Вокас» Дар'юш Вайцешук удакладніў, што пасля платы як за куплю большасць палёў, узятых ад гаспадароў Нарваўскай гміны ў арэнду на 30-гадовы тэрмін, пасля рэкультывацыі вернецца да ўласнікаў.

— У нас купляюць кароў і калі жывёлавод акажацца банкрутам, нам ужо не плацяць за гэтае быдла. Якую мы маем гарантыю, што пасля трыццацігадовай здабычы торфу атрымаем рэкультываванае поле? — пытала жанчына. Іншыя сяляне папракалі арганізатараў сустрэчы за тое, што не былі падрыхтаваны карты з пазначанымі месцамі планаванай здабычы торфу. Паявілася прапанова, каб карты і планы здабычы торфу ў Нарваўскай гміне разгледзела Урбаністычна-архітэктанічная камісія, якая дзейнічае ў Гайнаўскім павеце.

— На нашых палях без нашага дазволу хадзілі працаўнікі і рабілі даследаванні глебы. Калі нашы гаспадары паяўляліся на сваім полі, яны ад'язджалі. Гэтыя працаўнікі не бралі таксама дазволу ў гміннай управе на свае даследаванні. Ці можна так без згоды ўласнікаў палёў і мясцовых органаў даследаваць глебу на прыватных палях? — пытаў Уладзімір Бэнэдычук з Ляхоў.

чытайце ☞ 10





# Што чакае беларусаў у 2020 годзе

2020 год ужо рушыў у дарогу. Пачаўся новыкаляндарны адлік — новых надзей, падзей, спадзяванняў і расчараванняў, набыткаў і непазбежных страт. Паспрабуем зазірнуць наперад, прыгадаць тое, што чакае жыхароў Беларусі ў годзе з дзвюма прыгожымі двацаткамі.

Год можа стацца калі не вырашальным, то кардынальна пераломным для насельнікаў Беларусі. Акрамя галоўнай стратэгічнай лініі так званай інтэграцыі — Масква душыць — Менск абяцае, але трымае апошні рубеж абароны, напэўна знойдуцца і іншыя формы маскоўскай экспансіі. У цэлым жа дзеянні Крамля, якія можна характарызаваць як „паўзучая анексія", істотна не павінны змяніцца. Тым больш, што расейскія вярхаводы зараз імкнуцца дамагчыся адмены эканамічных санкцый Захаду. У такіх варунках дадушваць свайго васала і галоўнага ідэалагічнага партнёра няма сэнсу. З іншага боку Масква часта ў сваёй гісторыі дзейнічала ірацыянальна і пагроза ліквідацыі нават фармальнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь працягвае вісець дамоклавым мячом.

Галоўная палітычная падзея — гэта афармленне чарговага, можна лічыць пажыццёвага, тэрміну прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі. Прэзідэнцкія выбары прызначаны на 30 жніўня, на самы канец каляндарнага лета. У гэты дзень начальніку беларускай дзяржавы спаўняецца роўна 66 гадоў і ён збіраецца пайсці на сваю 6-ю кадэнцыю. Няма сумневу, што да другога туру галасавання справа не дойдзе. Таксама няма загадкі, ці будуць у Аляксандра Рыгоравіча імітацыйныя супернікі, а насамрэч спарынг-партнёры і фактычныя статысты.

Перад дэмакратычнай апазіцыяй стаіць заданне паламаць уладны сцэнарый і не гуляць па правілах, навязаных рэжымам. Адны апаненты рэжыму будуць заклікаць да поўнага байкоту, іншыя — да магчымасці скарыстаць легальныя магчымасці і „працаваць з народам", трэція — да ўдзелу і „ісці да канца". Рэальнага аб'яднання ўсіх дэмакратычных сіл не адбудзецца — гэта дакладна. У выніку выйсці на адзінага кандыдата ад апазіцыі так і не ўдасца. Ці знойдзецца грамадскі лідар, здольны на нешта немагчымае і неардынарнае — гэта пытанне. Ужо Дзень Волі 25 Сакавіка выразна пакажа, ці будзе ўлада ў 2020 годзе гуляць у лібералізацыю, ці жорстка абмяжуе дэмакратычную супольнасць у адзначэнні знакавай даты айчыннай гісторыі. Пра „палітычныя" штрафы за ўдзел у несанкцыянаваных акцыях асобная гутарка — за такі ўдзел паводле адміністрацыйнага кодэксу максімальна могуць аштрафаваць ажно на 1350 рублёў (на сёння каля 675 долараў ЗША!).

Паляпшэння эканамічнага становішча Беларусі і росту дабрабыту яе насельнікаў чакаць ніяк не даводзіцца. Не трэба быць вялікім аракулам і знаўцам эканомікі, каб прагназаваць далейшы рост цэн практычна на ўсё. У новым годзе вырасла базавая велічыня. Прычым вельмі істотна — з 25 рублёў 50 капеек ажно да 27 рублёў. Гэта адпаведна падвышае і памер усялякіх разнастайных штрафаў. Дакладна вядома, што вырастае аплата за жыллёва-камунальныя паслугі. Спадзявацца на нейкую структурную мадэрнізацыю гаспадаркі, стварэнне новых працоўных месцаў марна. Урад і галоўны начальнік дзяржавы зноў будуць насіцца па ўсім свеце ў пошуках новых крэдытаў. Для прыватнага бізнесу сонца з-за хмар не праглядваецца — знешнія варункі ўсё пагаршаюцца, а пакупная здольнасць насельніцтва няўхільна падае. У кожным разе Беларусь чакае новая хваля эканамічнай эміграцыі, дэмаграфічны спад і працяг вымірання малых мясцовасцей. А тым, хто яшчэ застанецца ў „стране для жызні", давядзецца тужэй „зацягваць пасы".

Гістарычнымі ўгодкамі для грамадскай супольнасці стане 100-я гадавіна з часу Слуцкага паўстання, якая прыпадае на лістапад. Дзяржаўная ідэалогія па-ранейшаму не прызнае нацыянальных герояў ХХ стагоддзя, таму для дзяржаўных структур галоўны будуць святкаванні 75-х угодкаў „Дня победы". Замест спакойнага хрысціянскага ўшанавання ахвяр Другой сусветнай вайны, зноў будуць „скокі на касцях", савецкія інсцэніроўкі і нейкі вар'яцкі мілітарысцкі культ з настальгіяй па „стране, которую мы пацяралі".

Так што як звычайна, паводле народнай мудрасці, будзем спадзявацца на лепшае, але рыхтавацца да горшага.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Нудотнага Нова года



Крышку я забабіўся, пішучы іншую калонку; прашу прабачэння. За апошнія некалькі дзён нічога асаблівага не адбылося. Ні добрага, ні дрэннага. Увогуле, можна было сказаць пра гэтыя дні, што яны мяне радуюць. Нічога мне не пашкодзіла. Нічога не хвалявала. Ніхто выпадкова ці зусім наўмысна не пашкодзіў мне, і ад мяне ніхто не пацярпеў. Так, і азіраючыся назад, я магу сёння сказаць, што ў той час я быў шчаслівым чалавекам. Ці яшчэ лепш: я быў бы шчаслівым чалавекам, калі б не было нудоты гэтых дзён. Нуда — гэта стан чалавечага існавання, якога ніхто не вытрымлівае ў канчатковым рахунку. Эмоцый у гэтым няма. Нудой ніхто не цікавіцца, таму няма попыту на яе, што не дзіўна, бо яе прапанова празмерная. Выпадала б гэтым цешыцца. Але ніхто не цешыцца. Нуда не падвяргаецца здзелкам чалавечага абмену, нават такім, як той, што нялюбаму суседу не ўдалося, і мы маем ад яго няшчасця шчыра схаваную радасць. Аперацыя па абмене — гэта не толькі грошы, але яна заўсёды здзяйсняецца ў выніку попыту і прапановы. Не менш, не больш, прыклад паказвае гэтае правіла рынку. Попыт на чарговае спатыкненне суседа расце, чым больш паспяховым з'яўляецца яго жыццё. Чым большая прапанова яго «няшчасцяў», тым меншы попыт сярод суседзяў. Вядома, я не хачу дэманстраваць дробязнасць на гэтым прыкладзе. Я хутчэй лічу, што людская дробязнасць і сквапнасць, як рынкавыя законы, альбо сацыяльныя сістэмы — ад камунізму да капіталізму — толькі вынік эвалюцыйных правілаў, якія рэгулююць прыроду і чалавека. Ці не дзіўна, што нават у гэтым механізме «суседства» попыт і прапанова — грунтоўна прыпісаны капіталізму — прага першаснай роўнасці, узятая з утапічных ідэй ранняга камунізму? Такім чынам, мы прымаем нашу беднасць, калі ў іншых жыццё не лепшае. І калі мы пажадаем дабрабыту нашым багатым суседзям, то толькі тады, калі мы будзем плаваць у дастатку самі. Гэта сапраўдны рай, жыць паміж аднолькава дурнымі ці мудрымі, аднолькава хворымі ці здаровымі, такімі ж стараннымі ці лянівымі — ідэальна справядлівая і роўна! Але не дай Бог, калі б хто-небудзь занадта нахіліўся так ці інакш — канец раю! Такі правапарушальнік адразу падвяргае сябе паклёпу і часта пераследу. Аднаго абвінавачваюць у крадзяжы, другога лаюць, што ён лянівы ці п'яніца.

Так, гэта вельмі своеасаблівае супадзенне, што эканамічная якасці так проста адлюстраваны ў чалавечых каштоўнасцях. Возьмем для прыкладу такую нуду... На рынку чалавечых патрэб яе зашмат. Нягледзячы на пакутліва адчуваны сіндром канца пэўнай эры, нягледзячы на шырокую трывогу, выкліканую глабальным пацяпленнем і звязанымі з імі сацыяльнымі зменамі з невядомым фіналам, нягледзячы на няспынную польска-польскую вайну, якая сілай свайго ганебнага ўздзеяння рыкашэтам б'е па нацыянальных меншасцях, усім нам, грамадзянам Рэчы Паспалітай, наогул нудотна. І калі нам сумна, мы пачынаем жадаць перамен. Што змяніць? Такім чынам адбываюцца ўзрушэнні і перавароты, першыя змены замяняюць другія змены ці добрыя змены. Часцей яны ідуць на горшае. Аднак справа ў маркетынгавай хітрасці — проста змяніць лозунг «нуда» на лозунг «шчасце», каб аднавіць наша існаванне і, адпаведна, жыццёвую эканоміку ў патрэбных прапорцыях. Мне шкада таго, што Грамадзянская платформа не прыйшла з гэтай ідэяй да свайго палітычнага падзення. Таму што справа ў тым, што нудзіцца ніхто не хоча, але ўсе хочуць быць шчаслівымі. На жаль, падчас кіравання Платформай нудотнасць стала амаль усеагульнай. Згодна з тэорыяй выдатнага эканаміста Шарля Жыда, які памёр у 1932 г., прапанова знаходзіць свой попыт тым працай, чым большая колькасць лішняй прапановы. У гэтым штосьці ёсць. Таму што, як кажа іншы эканаміст Анры Гітан, «попыт і прапанова — гэта два спосабы выражэння адной рэчаіснасці». Прапанова нуды і попыт на шчасце — гэта тая самая рэальнасць, у якой мы існуем. На жаль, абодва яны не пакідаюць слядоў. Прайшло некалькі сумных дзён, зразумела, з майго асабістага пункту гледжання — і я нічога не памятаю! І пра што тут пісаць? Як ужо адзначыў бясцэнны французскі гісторык Фернан Брадэль, «паспяховыя здзелкі, як і шчаслівыя людзі, не маюць гісторыі». Сапраўды, яе карткі запоўнены толькі стыхійнымі бедствамі і войнамі і мільёнамі іх ахвяр, уражлівымі чалавечымі няўдачамі і, нарэшце, банкруцтвамі альбо крахамі на біржы. Шчаслівыя людзі для яе нябачныя. Шчаслівыя людзі — не матэрыял гісторыі. Шчаслівыя часы не запісваюцца чалавечай памяццю.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Калядны хаос (3)

Пішучы пра калядны хаос, для нас, падляшскіх беларусаў, трэба абавязкова яшчэ асобна засярodзіцца на святкаванні двух Новых гадоў, Сільвестра і Шчодрага вечара. Вось каляндарная, юліянска-грыгарыянская рэчаіснасць вызначае нам функцыянаванне ў жыццёвым і духоўным вымярэнні. І менавіта з сакральна-духоўным бокам святочнага перыяду маем штораз большыя клопаты. Бо калі ў каталікоў час посту перад Раждаством Хрыстовым з'яўляецца часам радаснага чакання, то наш праваслаўны Пiліпавы пост не памяняў сваіх прынцыпаў. А тут тыдзень перад Калядамі па старым стылі маем нябачны, але векапомны і святкаваны па ўсім свеце Сільвестар і Новы год. Як тады вытрымаць у духоўным посце, калі ўсё вакол вiруе ў танцы і начных вечарынах. Пра што тут думаць у суцішэнні і спакоі, калі нашы сямейнікі маюць адзін галаўны боль — як апрануцца ў гэтую ноч, ці якія стравы нарыхтаваць на святочны стол, каб не саромецца перад гасцямі. А потым пасля цяжкай ночы прыходзіць дзень, у якім абед з падтрымкай працэнтных напіткаў бывае рытуальнай часткай першага дня новага года і ў галаве няма месца для будучага нованароджанага. У такой сітуацыі будзь ты разумным і прыдумай Саламонаву развязку. Усе ўжо звыкліся з такой рэчаіснасцю і, мабыць, атрымліваем нейкае няпісанае адпушчэнне грахоў за жыццё-быццё ў пастцы Новага года. Але не заўсёды так бывала. Памятаю як мае бацькі злавалі на майго старэйшага брата, калі пры канцы сямідзясятых гадоў з сябрамі выбраўся на Сільвестра ў Гайнаўку. Апрача думкі, а што ж яны будуць там вырабляць, галоўнай справай быў факт здзяйснення вялікага грэху ў апошні тыдзень посту. Страшэнне пеклам праяўлялася амаль у кожным сказе ў час гарачай спрэчкі паміж бацькамі і братам. Як потым аказалася, тое ж самае выслухоўвалі братавы сябры ў сваіх дамах. Вясковая грамадская думка не дапускала да сябе факту раскалыханай гульні ў нязгоднасці з парадкам Божым па юліянскай традыцыі. Са свайго студэнцкага перыяду згадваю такія Каляды, што яшчэ ў час хатняй урачыстай вячэры не заўсёды былі сілы паспрабаваць усіх страў, нарыхтаваных мамінымі рукамі. Надта сорамна было слухаць слоў бацькоў, як то ўсю Пілiпаўку пасцілі так як трэба. А тут сядзіць блудны сын, які не толькі не пасціў, але яшчэ з найбольшай асалодай грашыў апошнімі тыднямі і днямі. Такія карціны ўсплывалі мне перад вачыма, калі менавіта лежачы ў ложку слухаў ад самога пачатку да канца навагодні канцэрт пажаданняў на Радыё Рацыя. І як зараз не сімвалічна, але і сам надыход поўначы ў той самы дзень трэба адзначаць двойчы. Тут розніца не двух тыдняў, але дзвюх гадзін, якія жыхароў Зуброў, Крынак, Бабро́ўнік і нас усіх праз мяжу пераносяць у хутчэйшае вымярэнне часу і Новага года. Лежачы пры радыёпрыёмніку падумалася мне, што зусім рэальным можа быць здарэнне, калі на дванаццатую паводле беларускага часу даехаць і павіншаваць сяброў у Гародні і на тую ж самую дванаццатую нашага часу вярнуцца ў Беласток і тут слухаць дванаццаць udaраў гадзінніка. Тэорыя адноснасці часу проста навідавоку нават для найбольшых малавераў. Таксама слухаючы канцэрт далося заўважыць, што ўсё ж такі для большасці нашага вясковага насельніцтва святкаванне па поўнай праграме новага года чакаецца з трынаццатага на чатырнаццатага студзеня. Аднак цывілізацыйны каляндарны выклік не дазваляе таксама стаяць збоку, калі святкуюць іншыя. Таму вельмі мне падабаліся просьбы пра музыку. Адны хацелі яшчэ слухаць калядак, як у посце выпадае, другія раскручваліся пры застоллі з нашым беларускім дыскапола, з музыкай, пры якой, аказваецца, любяць гуляць і адпачываць мільёны палякаў. Слухаючы канцэрт на Радыё Рацыя, адчуваў я, якую важную місію выконвае гэтая перадача ў сённяшнім свеце самоты і забыцця. Простыя, добрыя словы людзей даюць надзею ў Новым годзе, што быццё разам — самае лепшае для нас лякарства.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Самае важнае — навучыць пашаны для другога чалавека



**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Ужо з дзяцінства мне хацелася стаць настаўніцай, хаця я ведала што гэта нялёгкая і адказная праца. Заўсёды цікавілі мяне гуманітарныя прадметы, любіла беларускую мову і вывучала яе з другога класа пачатковай школы. Калі закончыла беларускую і рускую філалогіі, пайшла працаваць у школу.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Першай маёй настаўніцай была Вольга Сянкевіч. Яна ўвяла мяне ў свет роднай мовы, традыцыі, культуры. Па сённяшні дзень памятаю, як яна спявала нам беларускія песні. Вялікі ўплыў мела таксама Валянціна Дмітрук, якая вяла тэатральны гуртох на беларускай мове. Мы рыхтавалі прадстаўленні, дэкарацыі і выступалі на сцэне. У ліцэі пачаткова вучыў мяне Аляксей Мароз, а пасля Васіль Сакоўскі. Яшчэ мушу ўспомніць Яўгена Вапу, ён вучыў мяне ведаў пра грамадства (WOS), але яго захапленне, энергія і любоў да роднага выклікала вялікую пашану для гэтага чалавека. Ужо на працы я пазнаёмілася і пасябравала з Людмілай Грыгарук. Мяне ўразіў яе вопыт і працавітасць. Так што на сваёй дарозе я спаткала цікавых людзей. Думаю, што мы, настаўнікі, стараемся зрабіць як найбольш для сваіх вучняў.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— У сваёй школе супрацоўнічаю з Людмілай Грыгарук, цаню метадычныя канферэнцыі, якія ладзіць Іаланта Грыгарук, супрацоўнічаю з Ангелінай Масальскай, Аннай Франкоўскай, Аннай Грэсь, Янкам Карчэўскім. Вельмі карыснай аказалася паездка на настаўніцкія курсы ў Мінск.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Думаю, што ўсе арганізацыі і ўстановы, якія дзейнічаюць у карысць развіцця і падтрымкі беларускай культуры, вельмі важныя. Шмат добрага і карыснага робіць АБ-БА. Важнае месца займае тыднёвік «Ніва». Прымаю ўдзел у шматлікіх конкурсах, якія ладзіць БГКТ. Супрацоўнічаю з Музеем беларускай культуры ў Гайнаўцы і Адукацыйным асяродкам у Шчытах. Цаню таксама Культурны цэнтр Рэспублікі Беларусь у Польшчы, які апошнім часам арганізаваў міжнародны адпачынак для дзяцей у асяродку «Зубронак».

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— «Народныя беларускія танцы», «Пазнаёмімся са сваім рэгіёнам», неўзабаве пачнем трансгранічны праект «Беларускае вяселле памежжа».

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Найбольш грунтоўны і патрабавальны — прадметны конкурс па беларускай мове. Каб вучань стаў лаўрэатам, ён мусіць вывучыць граматыку, літаратуру, павінен свабодна валодаць мовай. Люблю таксама конкурсы, якія адкрываюць таленты вучняў.



**Беата КЕНДЫСЬ** (год нараджэння 1978) закончыла ПШ № 3, а пасля Гайнаўскі белліцэй. Закончыла беларускую і рускую філалогіі на Універсітэце ў Беластоку. У гайнаўскай пачатковай школе № 4 працуе з 1 верасня 2003 года. З маленства жыве ў Гайнаўцы.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Так, магу. Калі ёсць такая патрэба, бацькі, супрацоўнікі шматлікіх устаноў ахвотна дапамагаюць.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Навучанне на прынцыпе добраахвотнасці надта складанае. Гэты закон не дапамагае, вучань практычна можа выпісацца з урокаў у любы момант. Трэба многа рабіць, каб зацікавіць і заахвоціць дзяцей рэгулярна прыходзіць на ўрокі. Не дапамагае і тое, што заняткі найчасцей адбываюцца на 7 і 8 уроку. Тады ўсе стомлены, намнога цяжэй працаваць.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Тры гадзіны хапае. Вядома, рэалізацыя праграмы залежыць таксама ад таго, з якой групай працуеш. Да конкурсаў рыхтуемся таксама пасля ўрокаў. Многа цікавага адбываецца на дадатковай гадзіне, адведзенай мясцовай гісторыі і культуры. Мы часта ездзім на экскурсіі. Вучні наведалі ўжо Дубічы-Царкоўныя, Барысаўку, Старое Ляўкова, Шчыты, Сакі, Залешаны. Разам з сяброўкай і пры дапамозе дырэктар школы ладзім экскурсіі ў Беларусь.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Ёсць. Калі добра я палічыла, іх будзе дзесяць.

**— Ці паводле Вас падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Гэта праблема. Яны ўжо недапасаваныя да сучаснасці і нецікавыя для вучня. Хаця ёсць адзін стары падручнік «Літарынка», якім цэлы час мы карыстаемся. На ўроках у старэйшых класах выбіраю найбольш цікавыя тэксты і карыстаюся іншымі дапаможнікамі. Вельмі карысны ёсць «Сцэнарый заняткаў для 1 класа пачатковай школы» аўтарства Аліны Ваўранюк.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— «Літарынка» і «Сцэнарый заняткаў для 1 класа пачатковай школы».

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Калі ідзе пра дзіцячую літаратуру, люблю Віктара Шведа і Ніла Гілевіча. Люблю чытаць Міхася Андрасюка, Ганну Кандрацюк, Міру Лукшу.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Актуальна чытаю «Культурную спадчыну рэгіёну Белавежская пушча».

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Чытаю «Ніву» і артыкулы з «Зоркі». У нашай школе дзеці падпісваюцца на «Ніву», яны рашаюць крыжаванкі і ўдзельнічаюць у конкурсах.

**— Якое паводле Вас самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Гэта «Купалле» і «Культура на сходах музея». Падабаецца мне цыкл фэстаў «І там жывуць людзі», «Бардаўская восень».

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Я стараюся гаварыць са сваімі вучнямі на беларускай гаворцы.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— У працы настаўніка бываюць прыкрыя хвіліны, але гэтых добрых бывае намнога больш.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Час, які вельмі хутка бяжыць і людзі, якія адыходзяць у вечнасць.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Я працавала з многімі таленавітымі вучнямі. Яны зараз ва ўніверсітэтах і вышэйшых вучэльнях, некаторыя ўжо працуюць. Адна мая вучаніца грае і спявае ў беларускім калектыве. Іншая з першага класа прымала ўдзел у «Родным слове» і «Беларускай гавэндзе», а цяпер яна вучыцца ў тэатральнай школе. Думаю, што ў працы настаўніка не самае важнае хто кім будзе, а тое, каб навучыць пашаны для другога чалавека.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Так, некалькі разоў я атрымала грашовую ўзнагароду дырэктара школы з нагоды Свята настаўніка. У 2017 атрымала я ўзнагароду бургамістра горада Гайнаўка. Атрымала падзякі ад устаноў і арганізацый, з якімі супрацоўнічаю.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— У асабістым жыцці — гэта сям'я, сябры. На працы — усмешкі і ўдзячнасць дзетак, добрае слова ад бацькоў, спрыяльная атмасфера сярод настаўнікаў. І напэўна поспехі вучняў.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Гэта тады, калі вучань заангажаваны, актыўны, шчаслівы. Усмешку на маім твары могуць выклікаць паштоўкі з уласнаручнымі малюнкамі дзяцей.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— У класе беларускай мовы ёсць Пагоня. На паліцах прэзентуем вышыванкі з беларускімі матывамі, а на насценгазетах — малюнкі вучняў з нацыянальнай арнаментыкай.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Цяжка сказаць. Ад нас саміх многа залежыць, якія будуць прышлыя пакаленні.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Аб чаромхаўскай культуры (10)

Прэзідэнт Рэчы Паспалітай штогод адзначае шлюбныя пары медалямі за шматгадовае супольнае сужонства. У календары Гміннага асяродка культуры ў Чаромсе запісана пастаянная цыклічная імпрэза, прысвечаная 50-гадоваму юбілею шлюбных пар.

І так, 10 лістапада 2016 года медалі атрымалі Вольга і Андрэй Дубягі, Анастасія і Міхал Патэйчукі, Ніна і Уладзімір Шэўчэнкі, Марыя і Міхал Свентахоўскія, Марыя і Уладзімір Высоцкія.

10 лістапада 2017 года медалі атрымалі Марыя і Іларыён Аляксеюкі, Марыя і Пётр Бубэлі, Марыя і Мікалай Кузьмы, Галіна і Мікалай Міхалюкі, Марыя і Сяргей Назарукі, Галена і Мар'ян Пачускія, Марыя і Антоні Раманчукі.

5 кастрычніка 2018 года медалі атрымалі Ірэна і Адольф Баруцінскія, Надзея і Міхал Дудэлі, Яўгенія і Мікалай Мартынюкі, Вольга і Мікалай Саўчукі, Яўгенія і Віктар Сідарукі.





Мастацкую частку рыхтавалі дашкольнікі і вучні. У юбілейных мерапрыемствах удзельнічалі кіраўнік ЗАГСа Аліцыя Пытэль, сябры і суродзічы юбіляраў, а медалі з ганаровымі граматамі ад прэзідэнта Рэчы Паспалітай уручаў тагачасны войт Міхал Врублеўскі. Юбілярам былі ўручаны кветкі і падарункі ад Гміннай управы. Пры супольным пачастунку за бакалам шампанскага, пры багата застаўленым пячэннем, ласункамі і фруктамі стале ўдзельнікі ўрачыстасці дзяліліся ўспамінамі і анекдотамі. Імпрэзы праходзілі ў сардэчнай і сяброўскай атмасферы.

**Уладзімір СІДАРУК**
Фота з архіва ЗАГС

## Калядуюць з гвяздамі

Па ўсім відаць, што ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета традыцыя калядавання не згіне. Зараз можа не так многа каляднікаў — юнакоў і дзяўчат ды гвяздаў, як было ў палавіне мінулага стагоддзя, але ўсё ж яны ёсць. Некаторыя ходзяць калядаваць з гвяздамі, а іншыя са святой іконкай. Гвязды былі г.зв. аднарадкі і двухрадкі (у іх было два разы больш г.зв. рагоў з пушыстымі кутасамі з мяккай гафрыраванай паперы) і, калі іх круцілі адзін рад рагоў круціўся ўлева, а другі ўправа. Цяпер у рэпертуары калядоўшчыкаў ёсць здавён-даўна вядомыя прыгожыя калядныя песні з багагласнікаў, але таксама і новыя песні.

Зараз групкі калядоўшчыкаў ходзяць з прыгожымі каляровымі гвяздамі-аднарадкамі з шасці і сямі рагамі з рознакаляровымі кутасамі ды наўкруг г.зв. ліца і пасярэдзіне яго з электралямпачкамі. Аднарадкі лёгкія, калі іх насіць. Вялікае дзякуй каляднікам за тое, што яны з кожным годам прадаўжаюць даўнюю прыгожую традыцыю калядавання. **(яц)**

# Будавалі па вёсках, але найчасцей у Бельску

Размова з **Янам БОБІКАМ**, пенсіянерам з Крывятыч Арлянскай гміны, 1948 года нараджэння, муляром-тынкоўшчыкам па прафесіі.



**— Ці Вы помніце сваіх дзядоў. Раскажыце пра сваіх бацькоў...**

— Дзядоў не помню, ведаю толькі, што дзед Андрэй Баліцкі быў шаўцом. Бацька Аляксей, 1923 года нараджэння, мясцовы. Маці Анна з Ярaслава, што за Жэшавам. Пазнаёміліся на прымусовых работах у Германіі. Маю старэйшую за мяне сястру і малодшага брата.

**— Школа? Адукацыя пасля падставоўкі?**

— Вучыўся ў Моры; яшчэ палову года хадзіў у новую школу, што зараз за вёскай. Пасля падставоўкі пайшоў вучыцца ў Гайнаўку, у завадоўку, на сталярскую спецыяльнасць. Але пасля некалькіх тыдняў пакінуў тую навуку — не хацелася даязджаць, раніцай уставаць; цяпер не пакінуў бы.

**— Пайшлі на працу?**

— І пайшоў па работах, працаваў у Пушчы. Бо гаспадарка невялікая была, каля шасці гектараў. Рабіў у мясцовым калгасе пяць гадоў, таксама пяць гадоў трактарыстам у крывятыцкім сельгасгуртку, а пасля ў эскаэры.

**— А я Вас памятаю як будаўніка, муляра. Што тады людзі хацелі будаваць?**

— Пасля я пайшоў на мулярскія курсы. Будаваў дамы, пераважна ў Бельску. Былі модныя „пянтроўкі" на падвале. Спачатку працаваў з Генкам Яворскім, а пасля з кашалёўцамі — Сярожам Калядой і Владкам Бобрам. Рабілі таксама па вёсках, але найбольш то ў самім Бельску.

**— І будавалі таксама сакральныя аб'екты...**

— Памятаю, што калі была тая аварыя ў Чарнобылі, то мы будавалі плябанію па вуліцы Траўгута ў Бельску. У Орлі таксама тынкавалі інтэр'ер новай школы (другая палова 1980-х гадоў — М. М.)

У Орлі насупраць школьнага будынка па вуліцы Бельскай будавалі капліцу ў гонар Сімяона Стоўпніка. (Пабудавана ў пачатку 1990-х гадоў; яе 16 ліпеня 1995 года высвяціў мітрапаліт Васілій. Штогод у першую нядзелю пасля Вялікадня адбываецца шэсце пад капліцу да рускіх і нямецкіх салдат, загінуўшых у Першую сусветную вайну і пахаваных на старым царквішчы, там, дзе да паловы XVIII стагоддзя стаяла першая царква. Капліца была збудавана стараннямі настаяцеля а. Аляксандра Такарэўскага — М. М.)

**— Вы таксама ўмееце печ паставіць...**

— Навучыўся сам па сабе. У калгасе пабачыў як адзін пячнік ставіў. Простая справа.

**— Вы таксама былі мастаком-аматарам, малявалі карціны.**

— Калі вучыўся ў падставоўцы, то любіў маляваць. З рысункаў меў добрыя ацэнкі. Вучыла ў школе настаўніца Таіса Дужэй, пасля замужжа Кацэйка. Памятаю — калі яшчэ не працаваў, то цяжка адарвацца, калі малюеш.

**— Войска?**

— Меў катэгорыю „А", а ўзялі ў тэрытарыяльную абарону. У Элку была прысяга; раней крыху папаганялі. Служыў у 1971 годзе, палову года на работах, а пасля тры месяцы ў Сувалках. Працавалі пры транспарце бульбы. У Саколцы перагружалі збожжа.

**— Ці ў Крывятычах Вы займаліся таксама выплятаннем саламяных каробак?**

— Займаўся; недзе ў 1964-1965 гадах. Шыў па дзве штукі ў суткі, без шаблонаў. Хлюбы куплялі гатовыя, а пасля людзі самі дзерлі. Выплялі таксама талеркі, крэслы, збанкі. Здаваць вазілі ў Рудуты, потым у Орлю, у Бельск-Падляшскі. Адна каробка, г.зв. „югаславянка", каштавала ў пачатку 148 злотаў. Я сабе амаль на матацыкл маркі «SHL» нашыў, а каштаваў ён тады 14 300 злотаў.

**— Ваша прыватнае жыццё, дзеці?**

— Ажаніўся, калі меў 33 гады. Пажылі пяць гадоў і разышліся. Потым ажаніўся другі раз з Анкай з Гайнаўкі. Маем аднаго сына.

**— Пенсія?**

— Маю пенсію з КРУС, а раней быў на структурнай. Хаця спярша плаціў складчыны ў ЗУС. Але зімою на будове не працуеш, а складчыны плаціць трэба. То ўзяў ад швагра гектар зямлі і перайшоў на КРУС. Трэба было мець прынамсі адзін гектар, каб атрымаць структурную пенсію; і так зрабіў.

**— Цяпер, на пенсіі, Вы і рыбалоў...**

— Маю кусок „кія". Маю карту, за якую плачу 100 злотаў, бо ўжо больш дзесяці гадоў; а так то трэба па 200 злотаў. Ці правяраюць карты? Цягам дзесяці гадоў мне правяралі тры разы. Мой сусед Алік таксама рыбалоў і мы ўдвух ездзім на рыбалку.

**— Вёска Крывятычы, як і іншыя вёскі, памянялася. У вас адрамантавана шыкарная вуліца. Прыхатніх лавачак многа, але яны пустыя. Падхмеленых таксама не відаць.**

— Няма ўжо каму піць. І зусім не відаць людзей, калі выйдзеш на вуліцу. Калісь было весялей. Крама была, каля крамы людзі стаялі, зойдзеш на піва. Збяруцца, паспяваюць...

**— Дзякую за размову.**

Пытаў і сфатаграфаваў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Ганаровыы юбілей



15 лістапада 2019 года ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе праходзіла незвычайнае мерапрыемства. Дзесяць шлюбных пар з Чаромхаўскай гміны адзначыла пяцідзесяцігадовы юбілей супольнага сужонства. З гэтай нагоды войт гміны Ежы Васілюк у прысутнасці намесніка Рады гміны Марыюша Шыманюка ўручылі юбілярам Медалі за шматгадовае сужонства. Звання ганаровага юбіляра ўдастоіліся дзесяць шлюбных пар: Валянціна і Ян Якімюкі, Вера і Якуб Кердалевічы, Ніна і Уладзімір Ляўчукі, Надзея і Міхал Міцэвічы, Марыя і Віктар Нічыпарукі, Данута і Марк Радзікоўскія, Вера і Віктар Рошчанкі, Надзея і Дзмітры Самосюкі, Ніна і Ілья Саласцюкі ды Ніна і Генрык Суленцкія.

— Пяцідзесяцігадовы жыццёвы шлях, паважаныя Юбіляры, па-за вамі, — сказаў войт Ежы Васілюк. — Супольна пражылі вы шматгадовы прамежак часу. Пэўна ў вашым сужонстве былі поспехі і няўдачы, таксама моманты сумныя і цяжкія хвіліны, якія патрабавалі самаахвярнасці і нягод. Асноўнае, што былі вы разам. Таму пяцідзесяцігадовы юбілей у нашым грамадстве лічыцца важнай падзеяй, — адзначыў войт Ежы Васілюк.

У мерапрыемстве ўдзельнічалі сямейнікі ды запрошаныя госці. Слоўна-музычны мантаж пад загалоўкам «Моцныя каханнем» падрыхтавалі мясцовыя школьнікі, затым выступіў фалклорны гурт «Гілочка». У заканчэнні выступу юбіляр Валодзя Ляўчук, які зачытаў свой верш «Гімн пенсіянера».

*Płyną lata płyną, ale dusza młoda.*
*Nie szkoda nam pracy, lecz młodości szkoda.*
*Mija młodość, praca, zostają wspomnienia.*
*Trzeba się z tym zgodzić, tu już wyjścia nie ma.*
*Poruszamy dziarsko nóżką krok po kroku,*
*byleby doczekać do nowego roku.*
*Krok jest posuwisty, czasami jak taniec,*
*tu idzie elegant, a tam przebieraniec.*
*Idą starsze lale, a obok narciarze,*
*maki już jesienne, pomarszczone twarze.*
*Idzie dziś emeryt, idzie na spotkanie,*
*będą tu szpanować Panowie i Panie.*
*Niech żyje emeryt, niechaj długo żyje,*
*a dopóki żyje, niechaj wino pije.*

Юбілярам апрача медалёў былі ўручаны ганаровыя граматы, кветкі і падарункі. Затым удзельнікаў імпрэзы арганізатары, а былі імі Гмінная ўправа і Гмінны цэнтр культуры, запрасілі на супольны пачастунак. Пры застоллі юбіляры падзяліліся ўспамінамі, было зроблена шмат памятных здымкаў.

**Уладзімір СІДАРУК**
Фота ЗАГС

# Новыя падручнікі

**Гэта ўжо трэцяя кніжка, выдадзеная для вучняў ліцэя — «Родная літаратура». Праз паўтара года — наступная — для чацвёртага класа.**

— Гэта кніга прапанавана да выдання на палову 2021 года, — кажа рэдактар Анна Радзюкевіч. — З гэтымі праектамі заспела нас рэформа адукацыі, але мы ўключылі два першыя падручнікі, якія былі выдадзены для трох класаў ліцэя для першага і другога класа — выдадзеныя намі былі свежыя, добрыя, і я пераконвала міністэрства, што няма сэнсу выкідваць нават бюджэтных грошай на рэдагаванне новых падручнікаў. І з гэтага яны стварылі разам з гэтым падручнікам, які выдалі ў 2019 годзе, і з падручнікам, які выпусцім праз паўтара года, — серыю для ліцэя. Аўтары ёсць розныя, гэта **Вольга Сянкевіч, Іаланта Грыгарук і Янка Карчэўскі**, які будзе таксама аўтарам падручніка для чацвёртага класа. Якія павінны быць падручнікі па беларускай мове, каб яны былі цікавыя для маладых людзей? Я працую — а думаю што будзе гэта дванаццаты падручнік — і заўсёды хачу, каб акрамя беларускай літаратуры, а гэта абсалютная падстава падручніка, з'явілася таксама цікавае графічнае афармленне, якое нас адначасова ўводзіць у галіну мастацтва. Падручнікі, якія выдавала Выдавецтва школьнае і педагагічнае, мелі такую ўбогую шату — нейкія лапці, пасталы, нейкі вясковы краявід... Мне здавалася, што мы не можам зводзіць беларускай культуры толькі да такой народнай, сялянскай, таму што былі ў ёй і высокія мастацкія слаі. І з-за гэтага мае падарожжы ў Беларусь, як рэдактара, — гэта былі кантакты з музеямі гісторыі, музеямі мастацтва, літаратуры, і ў супрацоўніцтве з імі ды пры дапамозе таксама Пасольства Беларусі, Цэнтра культуры Беларусі — я вельмі ўдзячная за гэтыя кантакты, каардынаты і адкрыванне для мяне дзвярэй — я магла здабыць вельмі цікавы ілюстрацыйны матэрыял. Гэта былі і старыя паштоўкі, м.інш. з міжваеннага перыяду, вельмі многа сучасных, але і дзевятнаццацівечных рэпрадукцый карцін, здымкаў розных беларускіх мастакоў. Калі мы гаварылі пра тэатры, атрымалі здымкі напр. з Тэатра Янкі Купалы, калі былі раздзелы пра архітэктуру, былі паказаны выдатныя помнікі архітэктуры. Пры нагодзе розных тэкстаў былі напрыклад паказаны княжацкія, магнацкія сядзібы... Такім чынам узнікла серыя мнагавобразная, іншая, чым былі падручнікі ў «камуністычныя» часы, калі ўсё зводзілася да сялянства ў беларускай культуры. Нават пазней, ужо па пераменах, калі падручнікі рэдагавала Выдавецтва школьнае і педагагічнае — яны проста не мелі доступу да гэтай сферы, падарожжаў па Беларусі. У мяне за плячыма шмат падарожжаў, калі я рэдагавала перш за ўсё падручнік па гісторыі ці геаграфіі для ліцэістаў, якія вучацца беларускай мове. Я аб'ездзіла цэлую Беларусь, была амаль ва ўсіх важных музеях, сустракалася з гісторыкамі, якія мне таксама падказвалі, што трэба сфатаграфаваць, паказаць. Уводзім таксама раздзелы пра нашу лакальную культуру. Гэта залежыць ад перыяду. У чацвёртым будзе змест з другой паловы дваццатага стагоддзя. Гэта матэрыял аб беларусах, якія пражывалі або пражываюць на нашых землях, аб важных з'явах, важных дасягненнях... Вось у падручніку для другога класа — тут мы на пачатку прыбліжаем такія постаці як Ігнат Анацэвіч, Міхал Баброўскі, Ігнат Даніловіч, Іосіф Ярашэвіч, Антон Сасноўскі, род Кастыцэвічаў, род Хлябцэвічаў, Аляксандр Гершун (фізік), Іосіф Лангбард (архітэктар), Нестар Перавой, шчытоўскі цэнтр асветы і сельскагаспадарчага прагрэсу з міжваеннага перыяду... Так што вучні будуць адразу ўведзены ў самыя найважнейшыя справы, якія зрадзілі беларусы на нашых землях. Да гэтай пары было толькі тое, што «было калісьці», у Савецкай Беларусі ці цяпер у Рэспубліцы Беларусь, а нашы справы не былі важныя. А важна, каб дзеці ведалі, што вырастаюць у беларускім асяроддзі і што іх продкі дасягнулі многа, а яны з'яўляюцца іх наследнікамі і працягваюць беларускую культуру.


Анна Радзюкевіч і Янка Карчэўскі

Аўтарам падручніка да трэцяга класа з'яўляецца **Янка Карчэўскі.**

— Калі параўнаць яго для падручнікаў, з якіх вучыўся я, — кажа аўтар, — у пачатковай школе ці потым у ліцэі, дык можна жартам сказаць, як паміж тым, што маем цяпер як да Візантыі. Іншы час, іншыя патрабаванні, іншыя тэхнічныя матэрыялы, якімі мы распараджаемся. Калі гаворка ідзе пра нашу мясцовую спадчыну, маем у кніжцы такія постаці як Яраслаў Кастыцэвіч, айцец Канстанцін Байко, таксама гаворыцца пра гімназію ў Вільні, філосафа і настаўніка Міколу Чарнецкага... Калі возьмем у рукі і пераглянем сучасныя праграмныя асновы, выдадзеныя міністэрствам, там кажацца пра свядомасць уласнай спадчыны. І гэта падручнік рэалізуе. Апрача таго багаты літаратурны матэрыял. Маем літаратуру з часоў Другой сусветнай вайны, па васьмідзясятыя гады XX стагоддзя. Такія волаты беларускай прозы як Васіль Быкаў і Уладзімір Караткевіч. Ёсць да прачытання тэксты, якія трэба прачытаць да матуры, але і дадатковыя мастацкія тэксты. Так што падручнік таксама прымеркаваны да матуральнага экзамену. Ёсць таксама багаты крытычна-літаратурны матэрыял. Ёсць слоўнік, усялякія практыкаванні...

Першы раз здараецца такое, што падручнік будзе чакаць сваіх вучняў. Такое патрабаванне моладзі — каб такі падручнік па роднай мове да іх трапіў, каб іх зацікавіў.

— Я думаю што так, — кажа настаўнік. — Бо калі яны вырашылі вывучаць беларускую мову ў ліцэі, дык трэба рэалізаваць праграму. Вучні раней цікавяцца, што ў гэтым каляровым падручніку далей, якія тэксты, што пра культуру, напрыклад — жывапіс. А гэтага даволі шмат.

Цяпер у школах паяўляюцца электронныя падручнікі, на айпадах, планшэтах. І гэтыя падручнікі знаходзяцца на сайце scholaris. Так то пачытаць іх могуць не толькі вучні, але і іншыя карыстальнікі, якія цікавяцца беларускай літаратурай, культурай і якія самі хочуць падвучыцца самастойна. А хто хоча карыстацца электронным падручнікам, можа не насіць у школу кнігу, будзе яму лягчэй :-).

— Гэты падручнік вельмі прыемны да чытання, дзякуючы афармленню, і таму што надрукаваны ў іх творы самых выдатных пісьменнікаў, — дадае рэдактар Анна Радзюкевіч. — Вельмі хваляць падручнік Янкі Карчэўскага таксама за мастацкае афармленне настаўнікі і працаўнікі міністэрства асветы.

— Пры працы над новым падручнікам трэба будзе скласці план, канспекты, што туды ўвойдзе. Напэўна будзе там матэрыял пра дзейнасць беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, культуру і літаратуру, арганізацыі, школьніцтва, сродкі масавай інфармацыі, будзе самая сучасная беларуская літаратура, дзевяностыя гады мінулага стагоддзя, і нават тое, што паявілася пасля двухтысячнага года, і вернутая будзе таксама літаратура беларускай эміграцыі. Напэўна знойдзецца ў кнізе літаратурна-крытычны тэкст пра «Белавежу» і таксама некаторыя аўтары. Калектыў настаўнікаў выбярэ, што паводле іх павінна апынуцца ў падручніку з таго, што найбольш падыходзіць для нашых вучняў.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

## Святочныя ўспаміны

Праваслаўныя вернікі ў студзені адзначаюць найбольш святаў. А святкаванні пачыналіся з Куцці, 6 студзеня. Для дзетвары гэта быў асаблівы дзень упрыгожвання ёлкі. Дрэўка заўчасна прыносілі мы з лесу. Ссякалі некалькі дзён раней і ставілі ў сенцах, каб растаў ледзяны снег. На Куццю 6 студзеня ў пасляабедзенны час браліся за ўбіранне. Дрэўка замацоўвалі ў драўняны крыжачок (пасля ў металічную стойку, якую рабілі ў вагонным ці паравозным дэпо). На вяршыні вешалі залатую зорку, а пад ёлкай ставілі вялікага Дзеда Мароза ў чырвоным кафтане з мяшочкам на плячы. Гэту цацку прывёз бацька з Аўстрыі, вяртаючыся з канцлагераў. Затым вешалі шарыкі, каляровыя свайго вырабу ланцужкі, анёлкі, доўгія цукеркі, пячэнне дамашняга вырабу, яблыкі, затым ставілі ў падсвечніках свечкі і вешалі «зімныя огні». Жанчыны рыхтавалі дванаццаць посных страў. Абавязкова мусілі быць куцця, аўсяны кісель, шчолак з фруктаў і селядцы. На ганаровым месцы, у куточку кухні стаяла звязка жыта. Да вячэры засядалі пры першай зорцы. Стол быў засланы белым абрусам, пад які клалі сена. Заўжды пакідалі вольнае месца для незнаёмага госця. Пасля вячэры стол пакідалі непрыбраным. Казалі, што рэшткі застаюцца для душ памерлых сямейнікаў. Божае Нараджэнне адзначалася тры дні (7-9 студзеня). Затым рыхтаваліся да Шчодрага вечара і Новага Года (13-14 студзеня).

Вось што захавалася ў памяці з перыяду маёй маладосці. Напярэдадні Новага года кавалерка рабіла ўсялякія фокусы. Здымалі з завесаў фортачкі ды брамы і адкідалі ў цёмны куточак, каб гаспадар не змог знайсці. У Кузаве фортачкі закідалі ў студню або зацягвалі на саламяны дах. У гаспадарскіх дамах, дзе была паненка, вапнай замалёўвалі вокны, камін на даху закрывалі шклом. Дзяўчаты займаліся варажбой. Выльвалі воск на ваду, бралі з паддаша дрэўка ды лічылі: пара, лішка. Пара абазначала, што дзяўчына неўзабаве выйдзе замуж, пры лішцы — застанецца паненкай. Іншая варажба гэта слуханне брэху сабак. Выйшаўшы з хаты, слухалі адкуль сабакі забрэшуць. Значыцца, з таго боку прыедзе жаніх. У Шчодры вечар хадзілі фокуснікі з «Гагатухай» — пераапранутыя дзед з бабай, смерць з касою і д'ябал. Віншавалі гаспадара з надыходам Новага года. У заплату гаспадар абдароўваў грачаняй кішкай, каўбаскай або грашыма. Хто не даваў нічога, дык вымаўлялі:

Гоготуха гоготала,  
ныгдэ кішкі нэ достала.  
Як достала то і з'їла  
под океньцём напэрділа.

А ў пажылым ужо ўзросце збіраліся мы ў кампаніі з Мікалаем Пытлем і Пятром Саласцюком ды сустракалі Новы год у Міхася Ярмалаевага. Гаспадыня, Марыся, пякла заўжды грачаную кішку і мы бралі духмянае смакоцце ў прыкуску да выпітай чаркі. У Новы год (14 студзеня) сыны Івана Маркевіча хадзілі з шопкай. Зараз нашы кампаньёны адышлі ў вечны спачын. Засталіся адно мы з Міхасём. Абодва пенсіянеры. Абодва зняволеныя хваробай. Жывем у адной вёсцы і не можам спаткацца па прычыне балючых ног.

Студзеньскія святкаванні канчаліся Вадохрышчам (19-21 студзеня). Даўней ваду свяцілі ў крыніцы, якая спалучаецца з рэчкай Нурэц. Зараз ваду асвячаюць у царкве. Для мяне Вадохрышча — асаблівае свята, мой дзень нараджэння. У гэтым годзе 19 студзеня буду адзначаць васьмідзесяцігоддзе.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

# Наталля поўная надзей і... трэмы

Наталька Кіндзюк вучыццаў шостым класе Нараўчанскай школы. Ужо не першы раз прымае ўдзел у ніўскіх і зорчыных конкурсах, заўсёды з поспехам. Гэта не залежыць ад уласнай сімпатыі да гэтай самавітай дзяўчынкі рэдактараў ці паэтаў — сур'ёзнае міжнароднае журы ацэньвае каштоўнасць і таленавітасць напісанага, а пасля надрукаванага слова, нават не ведаючы, хто гэта напісаў і прыслаў на конкурс. Адно вядома, з якой узроставай «катэгорыі» аўтар, але і тут няма ніякага льготнага падыходу, што пісаў гэта, напрыклад, вучань пачатковай школы. А каштоўнасць і значэнне твору ацэняць тыя, хто яго прачытае. І што тыя словы прынясуць чытачу, ці «малому», ці «дарасламу» — бо і тыя чытаюць «Зорку», і знаходзяць там сябе маладзейшымі, а тэмы там такія, якія да сёння іх хвалююць і радуюць. Бо жыццё ўсяляк тузае кожнага чалавека і часам навальвае на спіну ношу зможную да ўзніцца рослым асілкам, а не дзіцём.



Наталька Кіндзюк зноў не прыехала на ўрачыстае завяршэнне конкурсу «Дэбют» — узнагароду, пэўна, прыйдзецца прывезці ў школу і ўрачыста ўручыць яе гэтай таленавітай дзяўчынцы. А калі мы ехалі ў Беласток на аўтобусе са старэйшымі ўдзельнікамі «Дэбюту» з Нараўчанскай гміны, Наталля прыслала мне па месенджэры ліст на беларускай мове, дзе патлумачыла сваё рашэнне. «Дзякую, што пані памятала аба мне. Я проста баялася, што праз трэму не дам рады падысці па ўзнагароду. Я простая дзяўчына, пішу тое, што думаю, але горш у мяне з трэмай. Яшчэ раз сардэчна дзякую. Наталля Кіндзюк». Наталька! Я да гэтай пары маю праблему з трэмай, хаця даводзілася мне дзесяцігоддзямі выступаць на розных сцэнах і прымаць розныя ўзнагароды. Памятаю сябе ў Тваіх гадах, як дзяўчынку з суседняй школы, якая пачала прыгоду з родным словам і як яно стаяла са мною і за мною! Мацуймася! Пішам!

**Міра ЛУКША**

# Міфы
## старажытных беларусаў

**Чырвоны колер** - адзін з галоўных у традыцыйнай культуры беларусаў. Ён сімвалізаваў жыццё і звязаныя з ім паняцці: кроў, нараджэнне, адраджэнне, уваскрэсенне. Чырвонае велікоднае яйка лічылася сімвалам другога нараджэння Ісуса Хрыста.

Цікавыя прыкметы з нараджэннем дзіцяці. Чырвоны колер твару і цела ў нованароджанага беларусы лічылі вялікім шчасцем. Яны верылі, што дзіцятка будзе мець доўгае жыццё. Каб яно было здаровае і румянае, падчас купання ў ваду клалі прадметы чырвонага колеру, напрыклад, ягады каліны. Ваду, у якой першы раз купалі дзяўчынку, вылівалі на чырвоную вішню. Ад гэтага яна мела быць прыгожай, здаровай і жыццядольнай. Пасля першага купання немаўля перавязвалі чырвоным паяском ці чырвонай стужкай.

Чырвоны колер скарыстоўвалі ў рытуалах на поспех. Каб быць багатымі і прыгожымі, дзяўчаты, пачуўшы першы гром увесну, беглі да ракі. Яны мыліся і выціраліся чым-небудзь чырвоным. Таксама вясельны каравай называлі «чырвоным», бо яго пяклі добрыя і ўдалыя маладзіцы. На тым жа караваі чырвонымі ніткамі перавязвалі ў пары фігуркі птушак.

Часта шлюбны строй аздаблялі чырвонай вышыванкай.

Цікавая варажба з выбарам месца для пасялення. Каб выбраць месца для новай хаты, людзі пакідалі на абраным месцы чарапок. Калі ў яго напаўзлі чырвоныя насякомыя — цыганачкі, гэта значыла, што ў новай хаце запануе дабрабыт.

Чырвоны колер звязвалі таксама са светам памерлых. Калі ў хаце нехта паміраў, то цяжарную жанчыну «адгароджвалі ад смерці» ды перавязвалі яе жывот чырвоным поясам. Каб засцерагчы жывых, верхнюю частку труны памерлага абівалі чырвонай тканінай.

Людзі верылі, што сярод ночы на балоце, курганах свецяцца чырвоным колерам закапаныя скарбы. Таксама чырвоным колерам зацвітала легендарная папараць-кветка ў купальскую ноч.

(Адрэзак адрэдагаваны на аснове кніжкі Алены Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей»)

**(гак)**

# УВАГА КОНКУРС! № 02-20

**Мяне з дрэва наламалі, потым лыкам абвязалі, ну а я і не сумую, ды па хаце ўсё танцую.**

**В....**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 26 студзеня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на адгадку № 50: гадзіннік. Узнагароды — беларускія наклейкі — выйгралі Юля Дарпенская, Тамаш Ваўранюк з Нарвы, Кірыл Неміцінскі, Кацярына Сурэль, Давід Маслоўскі з Арэшкава. Віншуем!**

**Наталля КІНДЗЮК**
Лешукі
ПШ у Нараўцы

## Ангел

Пры табе стаіць,
Цябе глядзіць.
Цябе ад дзіцяці знае
І веру ў цябе мае.

Кожнага дня.

Прыйдзе час,
Калі ты ўбачыш яго.
І пацалункаў прашлеш яму сто.

## Дом

Ёсць месца, куды іду.
Ёсць месца, куды вяртаюся.
Ёсць месца ўспамінаў.
Ёсць месца сям'і.
Ёсць месца сціпласці.
Ёсць месца кахання.
А ўсё гэта — месца
майго дзяцінства і маладосці.

*Стары Дзік*

## Два Новыя годы

Два Новыя годы
на нашым Падляшшы
не могуць
прыйсці да згоды.
Стары – юліянскі,
маладзейшы – грыгарыянскі,
хто з іх важнейшы,
а які справядлівейшы?
Даруюць нам
гадамі пытанні,
ад якіх у галовах
адны сумняванні.
Новыя годы
вандруюць вякамі,
адзін па-другому
сваімі слядамі
трынаццаць дзён адчакаюць,
напэўна на сябе
тады не трапляюць.
Прыходзяць толькі ўночы
не даюць спаць да паўночы
новы годзікі і гадзіны
дараць нам роўна,
што да хвіліны.
Калі захочам
іх даганяць,
яны хуценька
патрапяць знікаць.
І аднекуль ізноў прыляцелі
два Новыя годзікі
на адзін
цэлы год
з намі прыселі.

# Пра шчодрыя вечары
## (беларуская легенда)

Адна маладзіца з-за работы свету не бачыла. Яна так шчыравала, што забылася пра святыя вечары. Яна шыла і прала, дзень і ноч завіхалася. Раз, а то было ўжо пад поўнач, нехта пастукаў у акно:

— Хто там? — пытае яна.

— Я прынёс табе работу, — кажа голас. — Глядзі, каб за адну ноч ты напрала дванаццаць пачынкаў.

Спалохалася маладзіца, валасы дыбам сталі, ахінуў страх.

А незнаёмы паўтарае:

— Калі не справішся з работай да рання, не напрадзеш дванаццаці пачынкаў, гатуй сабе на другую ноч труну...

І знік.

А маладзіца — ні жывая, ні мёртвая, тры разы перажагналася. Выйшла яна на двор, нікога няма. Толькі бачыць — ляжыць ворах лёну. Узяла той лён, прынесла дахаты і думае: «Няма адвароту! Трэба прасці!»

Яна села прасці і зразумела што ніяк не паспее з работай. Тады ўзяла верацяно, акруціла яго пакуллем, а на верх напрала нітак у два рады, каб усё закрыла. Такім хітрым спосабам яна напрала дванаццаць верацён. Раніцай усе дамашнікі паўставалі, — глядзяць, ад здзіўлення вочы праціраюць:

«Калядоўшчыкі» — малюнак дасланы на мастацкі праваслаўны конкурс

— Ці ты цэлую ноч прала, што ў прасніцы такая кудзеля? А можа яна не наша?

Маўчыць маладзіца, вочы адвяртае. Узяла яна тыя дванаццаць пачынак, вынесла іх у каморку ды паклала ў кубле. А потым яшчэ вынесла той лён недапрадзены. А яго столькі — найменш дванаццаць дзён і вечароў трэба прасці.

— Дапамажы Божа, — уздыхнула маладзіца і лягла спаць.

Спала яна цэлы дзень, нічога не піла, не ела. Устала вечарам, памалілася Богу, а ўсе дамашнія палажыліся спаць. Пайшла яна ў каморку паглядзець на сваю работу. А там — пусты кубал. Няма нідзе і таго лёну, што яна не дапрала.

— Можа дачка, сын, або муж дзесьці схаваў? — падумала.

Як толькі пераступіла парог каморкі, зноў пачула той голас:

— Ну, шчасце табе, кабета, што ты напрала дванаццаць пачынкаў. А то канец табе б прыйшоў за тое, што святых вечароў не шануеш. Калі зноў станеш прасці і шыці, я табе ў тры разы работы задам!

І пайшоў.

Маладзіца затрэслася як асінка. Зайшла ў хату і зірнула ў акно. А ноч была месячная, відная. Жанчына прыкмеціла як нехта стары з доўгаю, белай барадою сыходзіць ад іх двара і нясе на плячах дванаццаць пачынкаў. Паклалася спаць. Як лягла, два тыдні ў цяжкай хваробе ляжала, нічога не піла і не ела.

І мову ёй адабрала, ледзь-ледзь не памерла...

(*Паводле легенды запісанай І. А. Карскім на Гарадзеншчыне*)

* Шчодрыя вечары — вечары, якія пачынаюцца з 7 і доўжацца да 21 студзеня (па праваслаўным абрадзе); зваліся яшчэ старымі або крывымі. Тады забаранялася прасці, шыць, гнуць што-небудзь, каб не пашкодзіць свойскай жывёле, што нарадзілася ўзімку.

Марта (перша справа), Магдаліна Драздоўскія і Алівія Козёл з Міхалова

*Марта ДРАЗДОЎСКАЯ*
*Міхалова*

## Што значыць слова «каханне»?

Парыў ветру...
У замкнутай, самотнай зале
Ціхі голас картак
Дваццаць чатыры лаўкі
І толькі адна занятая
Музыка затрымалася
Нашы вочы спакталіся
Бляск яе вачэй колеру васількоў
Кветка з родных бакоў
Прывяло мне....
Прыпомніла мне пачуццё...

## Пісьмо назаўсёды

Мая мама заўсёды занятая
Прыходзіць нейкая спадарыня
і мне яе забірае
Мама пра ўсё тады забывае
У нейкую скрынку ўваходзіць
У іншы свет пераносіцца
Мне хацелася трохі часу
мамінага
падкрасці
Лялькамі ў дом пагуляць...
Потым я зразумела,
Маму назаўсёды маю
Нават калі яе не маю...

## Польска-беларуская крыжаванка № 02–20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 50-2019:**
Дуга, сойка, сказ, кабылка, кабарэ, дно, дзік, лік, кашуля, Ас, Дзед, як, крона, гуска, каб, сабака, козыр, для, лэдзі, кок, Ніка, парадак.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Оля Кардаш, Марцін Галёнка** з Нарвы, **Міхал Лаўрашук, Дар'я Радзівончык, Наталля Васільчык** з Нараўкі, **Пётр Вілюк, Аляксандра Купэль** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | Ryż / Rej | | Stolica |
| | Wieczorne spotkanie | Pałac | | Och! | Grek | Ryż / Raja | | | |
| | Szał | | Agrest / Lesia | | | | | | |
| Wir / Galeria | | | | Róg | | | | Raj | |
| | | | | | | | | Nie | |
| Nosek | | | | | | Zupa | O tym | | |
| Flaga | | | | | Specjalista | | | | |
| | Szansa | | | Nur | | | | | |
| Opady śniegu | | | | | | | | | |

# «Бязмежжа» са знакам якасці

Я нават на папяросу не выйшаў, — заявіў сябра, у прыватнасці зацяты курыльшчык, — баяўся, каб не згубіць хоць бы адзін момант...

Няма лепшых слоў, каб аддаць магію і энергетыку сёлетняга, ужо XXII «Бязмежжа», якое традыцыйна праходзіла ў пушчанскім пансіянаце «Бора-Здруй» з 20 па 22 снежня 2019 года.

Найперш трэба сказаць пра актуалізацыю трэндаў і з'яў у беларускай і сусветнай літаратурах. Надта выразна прагучала рэха сёлетняй Нобелеўскай прэміі для Вольгі Такарчук і яе беларускі кантэкст. Другі атракцыён — гэта жывая прэзентацыя лаўрэатаў літаратурных прэмій Ежы Гедройца і Наталлі Арсенневай за 2019 год. Фрагмент балючага «Libido», быццам з закавулкаў падсвядомасці, прачытаў, ці можа лепш сказаць — інсцэніраваў, сёлетні пераможца «гедройца» Ілья Сін. Адначасова прэзентаваліся сакавітыя навінкі з нашага падляшскага панадворка, заяўляючы пра набрынялыя праблемы і трывожныя знакі часу. А нагодай, якая звязала ўсе літаратурныя (ды не толькі літаратурныя) кантэксты стаў юбілей Міхася Андрасюка, як адзначыў свае спелыя 60 гадоў! Міхася віншавалі музычна (яму прысвячаўся канцэрт Валодзі Хільмановіча) і патрыярхальна, то-бок, юбіляра запрасілі на столак і па старой звычцы пагуцалі на поспех і здароўе. А ён сам, хоць і агаломшаны такім эфектным «пажаданнем», не застаўся ў даўгу перад «бязмежнай» кампаніяй.

* * *

Так, гэта быў сакавіты і насычаны ўрывак новай кніжкі «Рускі квадрат», над якой актуальна працуе Міхась Андрасюк. Рускі квадрат — не літаратурная выдумка, а мерка 10 х 9, якой карысталіся ў мінулым падляшскія дойліды. Дзеянне зачытанага фрагмента адбываецца на вясковых могілках.

— Гэтая кніжка пра зло, якое выспявае ў міжканфесійных асяроддзях, — прызнаўся аўтар «Поўні». — Чаму такая тэма? Баюся, што ў маёй Гайнаўцы можа здарыцца другая Срэбраніца.

Яшчэ перад чытанкай удзельнікі семінара мелі нагоду паглядзець рэпартажы Міколы Ваўранюка, дзе маладзенькі (і надта сімпатычны) Міхась Андрасюк апавядае пра сваю працу каменячоса і зафіксаваную на могільныку памяць продкаў. Зараз той біяграфічны досвед ажывае ў «Рускім квадраце», які спалучае сучаснасць і мінулае, светлую і чорную памяць. Міхась Андрасюк — творца, які безупынна здзіўляе і захапляе. А дзякуючы сёлетняй Прэміі Гедройца яго дацаніла і палюбіла ўся Беларусь.

— Міхась Андрасюк і Надзея Артымовіч, — гаварыў у дакладзе-выступленні выдатны паэт Юры Плютовіч, — аўтары еўрапейскага маштабу.

Надзею Артымовіч, фіналістку Прэміі Наталлі Арсенневай, аўтарку знакамітага беларуска-польскага тома «Краявід з невідочнай памылкай» павіншаваў з букетам руж сам Андрэй Хадановіч, экспрэзідэнт Беларускага ПЭН-Цэнтра.

І кожны з асобна быў удзячны Надзі за роздумы і эмоцыі, якія прынёс яе новы, метафізічны і высмакаваны «КРАЯВІД».

* * *

А наш «бязмежны» літаратурны беларускі краявід традыцыйна ўжо не мог абысціся без прэзентацый новых ідэй, кніжак, фільмаў, радыёрэпартажаў, жывых чытанак, музыкі і сяброўскіх бясед, якія цягнуліся часта да белага рання. Як заўсёды натхніў Менск, які ў гэты раз прыехаў пад камандай Ціхана Чарнякевіча. Сярод кніжных падарункаў трапіўся і 103 нумар «Дзеяслова», у якім надрукаваны вершы Андрэя Сцепанюка і фрагмент рамана «Подых Тэмры» Віктaра Стахвюка. «Подых» апярэдзіла такое «Слова ад „Дзеяслова"»: *«„Дзеяслоў" рызыкуе прапанаваць шаноўным чытачам незвычайны тэкст...»*.

Калі пра незвычайнае, тут трэба назваць чытанні Міры Лукшы з яе свежага, прасякнутага духам пушчы зборніка «Вершы з-пад лесу». Гэтае выданне, падобна як „Wiersze tutejsze" трывала назначыць польска-беларускае літаратурнае памежжа. Для такой справы выдатна паслужылі і пераклады Марыны



Фота Паўла Грэся



■ Надзея Артымовіч і Андрэй Хадановіч

Шоды, якая пераклала на беларускую мову творы Вольгі Такарчук. Разам з 20 перакладчыкамі з розных краін свету яна пабывала ў Стакгольме на ўручэнні Нобелеўскай прэміі. Кожны з перакладчыкаў зачытаў свой любімы ўрывак твораў Такарчук на мове перакладчыка:

— А я пераклала такі ўрывак пра ручны млынок і зараз вам яго прачытаю, — прапанавала Марына Шода.

Такі «шведскі» напрамак парадаваў і абнадзеіў усіх удзельнікаў «Бязмежжа». Дзеля гэтай справы перакладзеныя ўжо падмуркі. Калі зірнуць на сучасную дзіцячую літаратуру па-беларуску, тут неканкурэнтны пераклады са шведскай мовы.

* * *

«Бязмежжа», як адзначылі многія сябры семінара, не толькі матывуе іх да пісання. Тут завязваюцца творчыя кантакты, а часам і трывалыя сяброўствы. Мне самой цяжка прыпісаць Віцю Сазонава да літаратараў з Рэспублікі Беларусь. Са сваім гаючым гумарам ён выключна ўжо бязмежны і сусветны. Дык і ў гэты раз ён пачаставаў кампанію сакавітым фрагментам рамана «Генетычны алфавіт», які выйдзе ў 2020 годзе.

Сёлетні выпуск семінара аказаўся яшчэ і звышмузычным, а найбольш здзівіла музычная ажыўленасць за сталом, калі гітара, літаральна, пераходзіла з рук у рукі. Апрача класікаў, то-бок Алеся Камоцкага ці Андрэя Хадановіча, аб'явіліся дэбютанты, сярод якіх найбольш здзівіў і парадаваў стрыманы рэдактар Ціхан Чарнякевіч.

Як год раней літаратурную кампанію наведаў войт Нараўчанскай гміны Яраслаў Галубоўскі. У гэты раз ён прыехаў з фігуркай зубра, якую ўручыў шаноўнаму юбіляру Міхасю Андрасюку. І сказаў:

— Я рады, што ў нашай гміне адбываюцца не толькі народныя фэсты, але і такія імпрэзы са знакам якасці!







■ Злева: Алесь Камоцкі, Ілья Сін, Ціхан Чарнякевіч, Яўген Вапа

А ў маёй галаве яшчэ сёння гучыць незабыўны паэтычны выступ Наталлі Русецкай, якая ўпершыню прыехала на «Бязмежжа» з Любліна.

— Буду пра вас доўга думаць, — сказала яна на развітанне. — Едучы ў пушчу, я не спадзявалася, што тут будзе так насычаная і вытанчаная атмасфера. І я зразумела, які самастойны і моцны дух у беларусаў Падляшша.

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

У арганізацыі чарговага выпуску «Бязмежжа» «Ніву» падтрымалі Міністр унутраных спраў і адміністрацыі Польшчы, Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства, Саюз беларускіх пісьменнікаў і Нараўчанская гміна.



**Дар'юш ЖУКОЎСКІ**
Велішэў




* * *

Калі б я нарадзіўся сто гадоў таму,
Была б суровая зіма 1918 года,
Упісалі б у маім акце нараджэння,
Беларускую нацыянальнасць,
На нашай вуліцы Крывой,
Было б малое свята,
Мой бацька пайшоў бы ў царкву,
У парафіяльных кнігах,
Запісаў бы мне, мабыць, іншае імя,
Атрымаў бы прыгожа напісанае пасведчанне аб нараджэнні,
На старацаркоўнай мове,
Я меў бы перад сабою прыгожае дваццаціголддзе,
Пасябраваў бы з Соняй Цукерман,
Мы хадзілі б на марожанае,
У рэстаран Фейгі,
(Яна пасля вяртання з Тарбута і я пасля школы),
Яна б лічыла за лепшае сметанковае, а я шакаладнае,
Мы сядзелі б пад нашай ліпай, а расплаўленае марожанае,
Цякло б нам па падбародках,
У нашай студні мы памылі б рукі,
Пазней я правёў бы яе да хаты,
Пры Фабрычнай вуліцы,
Сказаўшы добры дзень бацьку дзяўчыны,
А цяпер гэты мой дакумент ляжаў бы,
У Музеі або толькі на ФБ,
А ліпу выразалі б пры пабудове блокаў,
А пра тую студню праз сто гадоў,
Толькі склаўся б верш.

* * *

Нашы маладыя ліпы,
З пабеленымі ў траўні стваламі,
Што раслі на старым рынку,
Каля гарадоцкай гасподы,
Ад Фабрычнай вуліцы,
Дзе мы гулялі ў мяч,
Стаялі спакойна,
Калі мы з іх ствалоў рабілі вароты,
І мяч часам трапляў у іхнія галіны,
А маладыя галінкі чакалі, каб хтосьці,
Сплёў іх у вянкі,
Пасвяціў у актаву Божага Цела,
І заткнуў іх за ікону,
А тады яны будуць падтрымліваць,
Спакой дома,
Адганяючы буры, маланкі і праліўныя дажджы,
А мы маглі б працягваць,
Бяспечную гульню ў сваё дзяцінства.

* * *

Асеннія плады арабіны,
Я рваў штогод,
З малых і крывых дрэўцаў,
Што раслі каля рынку,
Па вуліцы Сьвярчэўскага,
Побач з пякарняй,
Дома на кухні,
Я рабіў з іх пацеркі,
Для сваёй сённяшняй жонкі,
На іголку нанізваў чырвоныя плады,
І пах хлеба,
На чорную нітку,
З мамінай шуфляды,
І спяваў у школе,
Koral, koral sznur korali
La, la, la, la, la, la, la.
Koral, koral sznur korali
Koral jarzębina da.
Сёння я зрабіў бы тое ж самае.

* * *

Ісусе Хрысце з Мельніка,
З адрэзанымі плячыма,
Памілуй нас, грэшных,
Цяпер і ў гадзіну ўключэння пілы,
Для таго, каб абрэзаць ніжнюю бэльку старога крыжа,
Пад Тваe ногі, Госпадзе,
Адзін канец ніжняй бэлькі быў узняты,
Паказваючы на Неба,
Куды падаўся Добры Злодзей,
Укрыжаваны разам з Табою,
Другі канец быў апушчаны,
Паказваючы на Пекла,
Месца для другога злыдня,
Які не раскаяўся,
Які шлях мы цяпер выбярэм?
Як цяпер раскажаш нам пра драму,
Трох асуджаных на Галгофе,
На шалях апакаліптычнай вагі,
Якая рыхтуе нам лёс на Зямлі.
«Святый Боже, Святый Крепкий,
Святый Бессмертный, помилуй нас»

* * *

Прачытай мне мама,
Яшчэ раз,
Старыя кнігі,
Такія сапраўдныя,
Для дзяцей,
А я абяцаю быць ветлівым,
Не буду цябе турбаваць,
І запамятаю кожнае слова,
Якое сабе ўспомню,
Калі буду чытаць ужо сам,
Новыя кнігі для дарослых.

1 ☞ працяг

# Жыхары супраць плану здабычы торфу

Дар'юш Вайцешук завяраў, што суполка «Вокас» карыстаецца агульнадаступнымі картамі з намечанымі на іх залежамі торфу і не высылала працаўнікоў для даследавання глебы на палях. Сабраныя даведаліся таксама, што пры транспарце торфу суполка будзе карыстацца цяжкімі грузавымі машынамі.

— Нашы дарогі не вытрымаюць патоку цяжкіх машын з торфам і хутка знішчацца, — казалі мужчыны, а Дар'юш Вайцешук патлумачыў, што суполка «Вокас» будзе дакладвацца да рамонту мясцовых дарог.

— У стольках месцах здабываецe торф і вам яшчэ мала? Пакіньце нас маніць новымі месцамі працы, — гаварылі ўсхваляваныя ўдзельнікі сустрэчы, звяртаючы ўвагу на вялікія магчымасці экалагічнай сельскагаспадарчай прадукцыі ў Гародчыне і ў наваколлі.

— Цяпер вядуцца намаганні, каб Падляшскае ваяводства стала экасельскагаспадарчай краінай — вытворцам экалагічнага, здаровага харчавання. Калі ў нас пачнецца здабыча торфу, гэта будзе пярэчыць гэтай ідэі, — заявіла Раіса Бэнэдычук.

— Падчас здабычы торфу знішчаецца асяроддзе без магчымасці вяртання да першабытнага стану. У нас павінны развівацца вытворчасць здаровага харчавання і турызм, — гаварыў адзін з сабраных.



— Нашы лугі і архітэктура цікавыя турыстам. Мы павінны рабіць стаўку на турызм, агратурызм і сельскагаспадарчае развіццё рэгіёна. Ахоўваюцца ў нас рэдкія віды кветак і рэдкія гатункі птушак. Мы ўжо прывыклі да аленяў, дзікоў і нават ваўкоў, а да здабычы торфу не прывыкнем, — заявіла жанчына.

Добра было б, каб у час сустрэчы выступіў прадстаўнік тых асоб, якія здалі ў арэнду або прадалі палі суполцы «Вокас» і прадставіў меркаванні наконт планаванай інвестыцыі ў Нарваўскай гміне, але такога не адбылося. У час галасавання пад канец спаткання выдатная большасць мясцовых жыхароў прагаласавалі супраць планам здабычы торфу ў наваколлі Гародчына, Ляхоў і суседніх вёсак.

— Вашы выказванні наконт прапанаванай інвестыцыі здабычы торфу вельмі важныя. Аднак у нашай гміне ёсць вельмі вялікія інвестыцыйныя патрэбы, а ў выпадку дзейнасці на тэрыторыі нашай гміны суполка «Вокас» плаціла б тут падаткі. Частка нашых гмінных радных прымае ўдзел у сённяшняй сустрэчы і выслухала вашы выказванні. Трэба будзе радным прымаць складанае рашэнне: ці памяняць план прасторавага добраўпарадкавання, каб на палях можна было капаць торф, ці не? — сказаў войт Нарваўскай гміны Андрэй Пляскові і заявіў, што разам з раднымі будуць яшчэ выступаць за новымі аналізамі наконт уздзеяння прапанаванай інвестыцыі на навакольнае асяроддзе.

— Я супраць зменам у плане прасторавага добраўпарадкавання. Здабыча торфу можа прычыніцца да паніжэння ўзроўню вады ў глебе і ў выніку давесці да засухі. Ужо зараз у калодзежах назіраецца нізкі ўзровень вады, — заявіла радная Анна Яканюк з Градочна.

Трох іншых радных Нарваўскай гміны сказалі, што ўлічаць выказванні прадстаўнікоў суполкі «Вокас», мясцовага насельніцтва і будуць браць пад увагу іншыя інфармацыі наконт планаў здабычы торфу і магчымай шкоднасці гэтай інвестыцыі для навакольнага асяроддзя. А падчас галасавання на сесіі Рады гміны будуць супольна вырашаць, ці ўвесці змены ў план прасторавага добраўпарадкавання з мэтай дазволіць выкарыстанне палёў для здабычы торфу, ці не ўводзіць змен.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**




# http://gavarun.by

У той час, калі Беларусь толькі набыла сваю незалежнасць, на беларускую мову пачалі перакладаць агучаныя па-руску фільмы. Праўда, цягнуўся гэты працэс, які вёўся за дзяржаўныя грошы, нядоўга і з прыходам нязменнага прэзідэнта цалкам спыніўся. Праз дзесяцігоддзе справу беларускай агучкі фільмаў узялі на сябе грамадскія актывісты. І сёння ўжо ёсць фільмы, якія ўваходзяць у сусветную культурную скарбонку, па-беларуску. Адной з такіх ініцыятыў з'яўляецца студыя дыктарскага агучвання па-беларуску Gavarun.by. Адрас яе сайта ў інтэрнэце адпавядае назве — **http://gavarun.by**.

Згодна пададзенай там інфармацыі, студыя ўзнікла як праект энтузіястаў, што хацелі глядзець сусветнае кіно на роднай мове. І за два гады існавання яны агучылі 20 поўнаметражных стужак, больш як 40 кароткаметражных і назапасілі каштоўны досвед якаснага беларускамоўнага агучвання.

„Галоўная ідэя праекта — папулярызацыя і развіццё беларускай мовы. Для многіх беларусаў сёння важна мець магчымасць перыядычна кантактаваць з нацыянальнай спадчынай, а кіно з'яўляецца адной з самых уплывовых і прыцягальных частак сучаснай масавай поп-культуры. Такім чынам, цікавы відэа-кантэнт дазваляе лёгка і ненавязліва пасябраваць з беларускай мовай!" — гаворыцца на старонцы „Пра нас".

Паводле размешчанай там інфармацыі, сёння над агучкай фільмаў працуе каманда з перакладчыкаў, рэдактара, дыктараў і гукарэжысёра, здольная вырабляць прадукт прафесійнай якасці. „Кожную новую працу мы імкнёмся зрабіць лепей, падвышаючы тэхнічны ўзровень запісу, удасканальваючы вымаўленне і эмацыянальную падачу персанажаў, дакладнасць і мастацкі ўзровень перакладу. Фільмы з нашым агучваннем можна паглядзець на некалькіх буйных легальных анлайн-кінатэатрах", — сцвярджаецца на сайце.

Стваральнікі праекта запэўніваюць, што кіно па-беларуску дапамагае пазнаёміцца з беларускай лексікай, прызвычаіцца да гучання нашай мовы, а таксама матывуе размаўляць на беларускай мове. У сваю чаргу дзеці натуральна ўспрымаюць беларускую мову і хутка запамінаюць новыя словы, калі глядзяць цікавыя ім мультфільмы па-беларуску.

„Яшчэ кіно сёння — гэта адна з самых частых тэм для абмеркавання, а лакалізаванае па-беларуску, яно з'яўляецца паўнавартасным сродкам камунікацыі, калі ёсць з кім і пра што пагутарыць. Мы ўпэўненыя, што беларуская мова не толькі арганічна гучыць у сучасным сусветным кіно, але і здольная ўпрыгожыць любыя жанры: ад фэнтэзі і фантастыкі да жахаў і арт-хаўса!" — кажуць апантаныя беларускім словам актывісты.

Калі праглядзець цэлы сайт, то можна даведацца пра тых, каму вельмі залежыць на стварэнні беларускамоўных версій фільмаў. Гэта кіраўнік праекта Павел Бычкоў, дыктар Наталля Бычкова, рэдактар Леў Глушыцкі і перакладчыца Ксенія Капіца.

Справа „гаваруноў" знаходзіць станоўчы водгук у аматараў фільмаў па-беларуску. „Шчыры дзякуй вам за тое, што вы робіце. Гэта вялікі ўклад у развіццё беларушчыны", „Гледзячы і слухаючы тое, што ім цікава, моладзь і дзеці вучацца разумець і адчуваць мову, а тады ўжо і размаўляць па-беларуску. Вымаўленне акцёраў агучкі правільнае і якаснае — бяры і слухай і вучыся беларускай мілагучнасці", „Беларусізацыя мусіць пачынацца менавіта з дзяцей, а перакладзеных на беларускую мову мультфільмаў увобмаль!" — такія водгукі можна прачытаць на сайце праекта, а таксама пазнаёміцца з прыкладамі зробленага.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

# 205 гадоў з дня нараджэння Франца Савіча

Палескі публіцыст, удзельнік вызвольнага руху Францішак Савіч нарадзіўся ў 1815 годзе ў вёсцы Вяляцічы (Пінскі раён). Дакладная дата яго нараджэння невядомая, няма і яго партрэта. Пісаў Савіч на заходнепалескай гаворцы і па-польску. Рана страціў бацьку. Вучыўся паспяхова, адначасна з вучобай працаваў хатнім настаўнікам. У 1833 г. скончыў Пінскую павятовую вучэльню. Паступіў у Віленскую медыка-хірургічную акадэмію. На светапогляд Савіча моцна паўплываў наглядчык Пінскай павятовай вучэльні Францішак Махніцкі.

Найбольшая літаратурная актыўнасць Савіча прыпала на час вучобы ў Вільні. У той час займаўся літаратурай, пісаў прозу і вершы. У акадэміі зышоўся з украінцам Янам Загорскім. Спакваля вакол іх згуртавалася кола аднадумцаў і ў 1836 г. арганізавалася таемнае студэнцкае „Дэмакратычнае таварыства" (пачатковая назва — „Крыж і Евангелле"), якое аб'яднала некалькі соцень чалавек. Сябры таварыства лічылі сябе прадаўжальнікамі справы філаматаў. Савіча абралі сакратаром і скарбнікам. Неўзабаве напісаў для таварыства статут і адозву-праклмацыю „Заўвагі аб маральнай вайне народа з дэспатызмам". Статут абвяшчаў змаганне з беззаконнем, дапамогу абяздоленым, выхаванне сумленных і справядлівых грамадзян. Сваё аддзяленні арганізацыя мела ў розных гарадах, у тым ліку і ў Пінску.

Улетку 1837 г. Савіч пазнаёміўся з польскім змагаром, удзельнікам паўстання 1830 г. Шыманам Канарскім. Сустрэча адбылася ў маёнтку Лысава (Маневіцкі раён Валыні). Увесну 1838 г. Франц спрабаваў арганізаваць уласную друкарню. Каб знайсці чалавека, на імя якога можна было выпісаць з Жэневы друкарку, у траўні ў Вільню прыехаў Шыман Канарскі, аднак пры выездзе яго арыштавалі паліцыя. 1 чэрвеня 1838 г. арыштавалі і Савіча. У зняволенні ён напісаў на польскай мове „Споведзь". Следства цягнулася больш васьмі месяцаў, Савіч сядзеў у Віленскім базыльянскім кляштары. За час следства Савіч атрымаў 12 тысяч бізуноў, часта сядзеў у карцары. Допыты вёў старшыня следчай камісіі князь Трубяцкі, сапраўдны кат. Пазней Савіч падрабязна апісаў катаванні. У лютым 1839 г. следства было скончана. Савіча выслалі на Каўказ у салдаты без выслугі.

Разам з іншымі арыштантамі пешшу быў адпраўлены ў Стаўрапаль праз Чарнігаў, дзе захварэў. Там вывучаў горскія мовы, зблізіўся з палонным горцам Алі, які даў яму рэкамендацыйныя лісты ў Тыфліс. Пазней канваяваны ў Апшэронскі пяхотны полк у Кізляры, затым у Дэрбент і нарэшце ў Тыфліс. Нядаўна спрабаваў уцячы. У траўні 1840 г. сядзеў у цвердзі Жыранчы на Каспійскім моры, дзе выконваў і абавязкі лекара. Затым вярнуўся ў Кізляр. 22 красавіка 1841 г. Савіч інсцэніраваў самагубства, пакінуўшы на беразе Церака вопратку і цыдулку. Дабраўся да Таганрога, пасля скіраваўся ва Украіну, каб трапіць у Румынію. У Балтах каля Адэсы захварэў, затым арыштаваны памежнай вартай. Два гады пад чужым імем прасядзеў у турме Тырaспаля. У 1843 г. адпраўлены санітарам у Чарнігаўскі батальён унутранай варты. Увесну 1844 г. зноў уцёк, дабраўся да Кіева, потым пад імем доктара Гельгега затрымаўся ў мястэчку Янушполь на Жытоміршчыне. Пачаў у мястэчку лекарскую практыку і праславіўся як надзвычай умелы лекар. У 1845 г. заслужыў давер мясцовых улад і атрымаў замежны пашпарт. Аднак у час эпідэміі халеры захварэў. Перад смерцю паспеў напісаць успаміны.

Пахаваны Франц Савіч у Янушполі (Чуднаўскі раён) на Чарнігаўшчыне. У яго гонар названая адна з вуліц Пінску.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Чалавечая самота, дэпрэсіўныя настроі

З цікавасцю прачытаў я артыкул пад загалоўкам „Калядныя словы ўвесь год” Яўгена Вапы ў „Ніве” № 51 ад 22 снежня 2019 года. Ён мне спадабаўся і заінспіраваў да таго, каб узяць голас. І вось мой водгук. Жыву я ў прыпушчанскай вёсцы, тут зараз за ракой Нараўкай распасціраецца Белавежская пушча. Маё роднае сяло як і суседнія адміраюць. У вёсцы асталіся дажываць свой век пастарэлыя людзі. Іх найбольш. Ужо і мне 75 гадоў, а я яшчэ не лічу сябе старым. Вось учора праехаў на ровары каля 20 кіламетраў і да таго па бездарожжы ды лугавых мала пратаптаных сцяжынках. Люблю падарожжы ў пушчанскія нетры, дзе цяпер ходзяць зубры і ласі.

Я ў сваім вясковым асяроддзі зараз адчуваю, што то ёсць чалавечая самота. Таму як маю вольную часіну, іду наведаць 80- і 90-гадовых ды яшчэ старэйшых аднавяскоўцаў або знаёмых з бліжэйшых суседніх вёсак. Яны — жывая гісторыя. Я пра іх не забываю, а яны чакаюць мяне як жаданага госця. Ім хочацца расказаць пра сябе, пра свой працоўны шлях ды ўвогуле пра сваё жыццё-быццё якое б яно не было. Цікавыя іх расказы. Жанчыны даволі часта апавядаюць пра сваіх незабыўных колішніх „ухажораў” і пра добрых мужаў, што раней ад іх адышлі ў нябыт. Бывае, што калі не наведаюся праз тыдзень або даўжэйшы час, занепакоеныя маёй адсутнасцю тэлефануюць і прыпамінаюцца. І ўсё вяртаецца, як кажуць, на сваё месца. Так мае быць. Такі ў нас заведзены парадак.

Для мяне падабаецца пачуць цікавінкі з іх біяграфіі, да якіх, мабыць, ніхто дагэтуль не меў доступу. А зараз яны жывуць у маёй памяці. Я цікавіўся перш-наперш гісторыяй роднай вёскі і яе цікавымі для мінуўшчыны сяла жыхарамі. Цяпер некаторых маіх субяседнікаў ужо няма ў жывых. Пра некаторых з іх напішу ў сваіх успамінах з мінулага. Пра некаторых ужо пісаў і экземпляры „Нівы” перадаў іх наследнікам, дзецям.

Самотнаму цяжка жыць на абязлюдзелай вёсцы ў самоце і маўчанні. Асабліва зараз настальгічнай зімой. Ім прыдалася б хаця б суседская дапамога. Але цяпер з гэтым па-рознаму бывае. Не то што калісь. Добра калі ёсць да каго адазвацца, з кім перакінуцца словам. Гэтай парой на зіму некаторых жыхароў маёй вёскі забралі да сябе ў горад у адным выпадку сястра і ў другім — дачка з унучкай. Яны, ад’язджаючы, папрасілі мяне наглянуць на іх апусцелыя да вясны дамы, асталі нумары сваіх тэлефонаў-мабільнікаў і я з імі ў пастаянным кантакце. **(яц)**

# Беларускамоўныя навагоднія і калядныя паштоўкі, 1990-я гады




Навагоднія беларускамоўныя паштоўкі ў Беларусі выпускаліся і да 1990 года. Іх было няшмат. Але і тыя, якія выпускаліся па-беларуску ў Беларусі ці ў Расеі Міністэрствам сувязі СССР, атрымліваліся не вельмі прыгожымі і па-мастацку аздобленымі. Але іх можна было набыць у кіёсках ці на пошце. Праўда, больш за ўсё было паштовак рускамоўных. З 1990 года у Беларусі пачаўся актыўны выпуск беларускамоўных навагодніх і калядных паштовак. Нават па заказе Міністэрства сувязі Беларусі некаторыя з іх па-беларуску друкаваліся ў Расеі. Наклад беларускамоўных паштовак нават дасягаў да 2,5 мільёна штук. А потым паштоўкі на роднай мове пачало выпускаць выдавецтва „Беларусь”. Паштоўкі рыхтавала і само выдавецтва і па заказе Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь, а таксама асобных фірмаў. Напачатку 1990-х гадоў фірма „Кавалер” далучылася да выпуску беларускамоўных паштовак і выпускала іх вялікімі накладамі. Паштоўкі выпускала і ТАА „Адкрытае пісьмо”, яны друкаваліся на паліграфкамбінаце імя Якуба Коласа. А таксама ТАА „Графема” і іншыя фірмы. Не стаяла ўбаку і „Белпошта”, якая і 30 гадоў таму, і зараз выпускае вельмі прыгожыя беларускамоўныя навагоднія і калядныя паштоўкі і канверты. Арыгінальныя малюнкі да святочных паштовак малявалі ў тыя 1990-я гады мастакі Міхал Анемпадыстаў, Ніна Сакалова-Кубай, Ірына Лагуноўская... Паштоўкі з фотаздымкамі зімовых пейзажаў і гарадоў аздабляліся фатаграфіямі Г. Ліхтаровіча, А. Шчукіна, А. Барташэвіча, П.Кастэнкі, Н. Агладзэ і іншых. Вельмі цёплымі і святочнымі атрымліваліся калядныя паштоўкі з тэкстамі-пажаданнямі: ”З Калядкамі — добрымі святкамі: блінамі ды аладкамі!”, „Каб вы пілі і елі, харошыя мыслі мелі, вясёлыя песні пелі!. Добрых каляд!”. Ці пажаданні з Новым годам: „Каб вы весела жылі і здаровыя былі! З Новым годам!”. Прапаную некалькі навагодніх і калядных паштовак з тых 1990-х гадоў.




**Барыс БАЛЬ**,
Беларускае Радыё Рацыя

## Адгаданка

**1.** частка вупражы, якая надзяваецца каню на шыю, **2.** Генадзь, беларускі паэт і дзяржаўны дзеяч (1936-2014), **3.** Зоран, сербскі валейбольны трэнер (*Zoran Gajić*), **4.** галоўная крывяносная артэрыя, **5.** буйная марская драпежная рыба, **6.** негалосны гул, **7.** партнёр асецінкі, **8.** горад з Хрэшчацікам, **9.** пасудзіна для курэння ладану ў час набажэнства, **10.** вялікая рыбалоўная сетка.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | | |
| | 2 | | 3 | 4 | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | 5 | 6 | | | 7 | | |
| | | | 8 | | | | | |
| | | | 9 | | | | | 10 |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 50 нумара**

Каюк, фунт, Байкал, гора, дзічка, певень, Штоф, Рым, акула, чума, калюжына, ружа, бюро, моц.

Рашэнне: **Гадзюку найлепш трымаць чужою рукою**.

## 12.01 — 18.01

**(22.03. — 20.04.)** 11-13.01. дакладна гартай дакументы, дзякуючы чаму зможаш ураталаваць справы фірмы. 11-15.01. можаш быць зранены. 14-18.01. твой партнёр пакажа зусім іншы твар. Ад 16.01. будзеш у самым цэнтры ўвагі, хаця ад 13.01. схочацца пабыць табе ў адзіноце. Не зловіць цябе чалавек, якога словы нічога не значаць. Дзякуючы інтуіцыі добра ўкладзеш грошы.

**(21.04. — 21.05.)** Здабудзеш новыя інфармацыі. Ад 13.01. ты поўны красы. Быкі пасля любоўных турбот яшчэ будуць успамінаць. Пасля 13.01. нагоды для забавы. Пасля 16.01. не вер лішне ў мілыя слоўцы. 14-18.01. развінуцца тваё зацікаўленні, пазнаёмішся з цікавымі асобамі. З 17.01. паявяцца цікавыя прапановы працы. 17-19.01. можа быць больш школы чым карысці ад тваіх дзеянняў. Калі хочаш дасягнуць мэты, старайся не ісці напрасткі. З 17.01. не пазбягай працы і шэфа.

**(22.05. — 22.06.)** З 17.01. не адбудзецца без гаф і правалаў. Вельмі пільнуйся 11-13.01., не забудзь чаго і не нарабі памылак — адразу, калі што, прызнайся. Адкрываюцца перад табою шанцы на развой у амаль усіх сферах. Найбольшыя поспехі на працы. 11.01. не бярыся за стратэгічныя рашэнні, засяродзься на недаробленым.

**(23.06. — 23.07.)** 11-15.01. задумайся над будучыняй у пачуццях. У фірме буры з перунамі, але на шчасце яны моцна на кранучь цябе. Карыснымі будуць нейкія старыя, даўнія знаёмствы, могуць быць цікавыя прапановы. 11.01. адкрыюцца табе вочы на тое, чаго дагэтуль не заўважаў. Час унутранага адраджэння, адкрыццё новага напрамку дзеяння. Кланяецца дантыст!

**(24.07. — 23.08.)** Час працы і адрачэнняў. Юпітар можа адняць табе нейкія прывілеі. Патрэбна будзе падтрымка радні і сяброў. З 17.01. нервы і праблемы са сном. Трымайся дысцыпліны, не забывай аб блізкіх.

**(24.08. — 23.09.)** Зойдзеш туды, куды хочаш. Не націскай на патрнёра. Дома карнавальная атмасфера. 11-14.01. інвестуй у свае ўмеласці, неўзабаве прыдадуцца. Стаў на новыя знаёмствы. Кантакты, разам з людзьмі, з якімі пазнаёмішся, зладзіш прыбытковы бізнес, але не стой на чале. Інвестыцыі могуць не прынесці хуткіх і відных прыбыткаў, але будуць бяспечным капіталаўкладаннем. 17-19.01. будзеш пазбаўлены інстынкту бяспекі.

**(24.09. — 23.10.)** У прафесіі проста сарванне галавы. Хатнія справы могуць ускладніцца. 14-18.01. магчымыя цікавыя прапановы працы. Пасля 13.01. горш з фінансамі. Не дазволь, каб абмінулі цябе добрая забава і каханне.

**(24.10. — 22.11.)** 11-13.01. развяжаш праблему, з якой ніхто не мог справіцца. 11-15.01. ніхто не зможа цябе заатакаваць. Будзеш мець сілу пераконвання і вялікі ўплыў на іншых. Будзь сумленным. На працы стаў свае ўмовы, Скарпіён з ІІІ дэкады можа стаць дарадчыкам шэфа. Пасада мараў — як рукой падаць. Калі кашляеш, гэта хутчэй з-за пылу, а не прастуды.

**(23.11. — 22.12.)** Свет належыць да цябе, мары — як рукой падаць. Каханне ад найбліжэйшых. Магчымыя аварыі прылад. Кантралюй выдаткі. Будзеш энергічны, не пабаішся холаду. 11-14.01. можа чакаць цябе непрыемная размова з кіраўніцтвам. З 16.01. будзе біць з цябе аптымізм, адкрытасць і творчыя ідэі. Будзеш наватарскі і проста шалёны!

**(23.12. — 20.01.)** 12.01. сутычка з цяжкім праціўнікам. 14-18.01. каханая асоба прыемна цябе задзівіць. Выяві свае фантазіі. Сярод сяброў і сваякоў не будзь такі ўпарты! На працы нічога табе не пагражае. Не спяшайся на пенсію! На тваіх плячах цяпер можа спачыць лёс фірмы; справішся з нялёгкімі і далікатнымі справамі. Абдумай, каму хочаш даверыць свае фінансы.

**(21.01. — 19.02.)** 14-18.01. можаш змяніць у сабе на штосьці лепшае. 17-19.01. нічога не рабі ў спешцы. Пасля 16.01. добры настрой і дыстанцыя. Сустрэнеш братнюю душу. На працы трэба будзе заняцца папяровай работай. 12-15.01. чакае цябе візіт ва ўстанове, перашкоды, спазненні. Найлепш залезь пад плед, папівай гарачую гарбатку...

**(20.02. — 21.03.)** Будзе лепш. Пасля 13.01. рамантычнае пачуццё. Згодзе і гармоніі спрыяе нават парадак на пісьмовым стале. Зоркі гарантуюць табе красу, вабнасць, выкліканне сімпатыі ў кожнага, каго сустрэнеш. Пара на свой бізнес! 14-18.01. можа з неспадзяванага боку адкрыцца табе бізнесовая жыла золата (асабліва калі ты з І дэкады знака). З 18.01. сімпатычныя сустрэчы і ўдалыя імпрэзы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
*PL ISSN 0546-1960*
*NR INDEKSU 366714*
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.



# З чаго бяруцца поспехі

Размова з **Уладзімірам АЛЕКСЕЮКОМ**, старшынёй Вучнёўскага стралецкага клуба „Калібер” у Беластоку.

**— З чаго пачалося Ваша захапленне стральбой: з коркавага пісталета, да вераб'ёў з прашчы?**

— З коркавага пісталета ўсе любілі пастраляць. Мы, хлопцы з Дубна, хадзілі ў Боцькі на Антонія, эканомілі на той час тыя ўсе капейкі, куплялі коркі і стралялі. Але гэта было так, як і ў кожнага пацана. Але так сапраўды, то як я быў у Белліцэі ў Бельску, то я тры гады займаўся боксам у тамашнім „Туры”. Ад боксу адышоў, як паступіў у афіцэрскую школу ў Піле ў 1980 годзе. Бокс пайшоў у забыццё, але ён навучыў таму спорту, духу змагання, трэніровачнай дысцыпліне. А стралецтва выйшла пасля так выпадкова, бо папрасілі мяне нарыхтаваць каманду да марыністычнага тэлетурніра „Polska leży nad Bałtykiem”. Я нарыхтаваў тую каманду, а паколькі вайсковая і спартовая стральба гэта дзве абсалютна розныя справы, то я падумаў, што дзеля гэтай задачы трэба знайсці спецыяліста. У Піле быў стралецкі клуб „Sokół-Tarcza”, там я знайшоў інструктара, падружыў з ім, ён мяне крышку падвучыў — і мая моладзь з падставоўкі выйграла з ліцэістамі. І з таго пачалася мая прыгода са стралковым спортам.

**— Але Вы былі ў Піле падхарунжым, а як гэта сталася, што Вы навучалі школьную моладзь?**

— Быў падхарунжым, а паколькі жонка мела папраўку па матэматыцы, а я быў па школе Мікалая Красоўскага з Бельска, такі *труйкова-чвурковы* ў матэматычна-фізічным класе, то я ў той афіцэрскай школе быў прымусам па матэматыцы. А Мікалай Красоўскі навучыў нас простай матэматычнай мове, логіцы. І я ёй памагаў і так два сыны з таго памагання атрымаліся. Пажаніліся, шлюб бралі ў царкве ў Боцьках, а дзяцей хрысцілі ў царкве ў Валчу...

**— У Барэчкі?**

— Не; у Валчу быў Пётр Жарначук...

**— Але і Барэчка быў у Валчу; відаць раней, а ў Ваш час ён быў ужо ў Беластоку.**

— О, то я гэтага не знаў — трэба з ім спаткацца і пагаварыць... І так я з таго падхарунжага стаў настаўнікам, бо школу перарваў — не захацеў. Было ваеннае становішча, помню што татка сказаў: „Сынок-сынок, дурню, куды Ты лезеш камуністам служыць?” А я: „Што Віэтэ понімаетэ, Вы стары санацыйны хлоп”. А потым, як стала ваеннае становішча і я падумаў, што трэба з тае арміі хутка ўцякаць. Перайшоў я адразу на завочныя штудыі абарончага прыспасаблення ў Быдгашчы, без экзамену, стаў працаваць настаўнікам. Я працаваў у школе ў Старой Лубянцы ў тадышнім Пільскім ваяводстве. Прыехаў да мяне віцэ-куратар і сказаў, што патрэбны настаўнік у пільскі ліцэй. Я добра трапіў, быў там Стэфан Яснаж, такі адухоўлены настаўнік, шмат ад яго я навучыўся. Тады прыйшлося рыхтаваць каманду да спаборніцтва „Srebrne Muszkiety”. І тады было шчыльнае супрацоўніцтва з Юзкам Руцінскім, трэнерам стралецтва.

Гутарылі мы шмат, некалькі гадоў, ніякіх курсаў я не праходзіў, ён сказаў, што больш мяне не навучыць, сказаў ехаць у Познань. У Познані быў Рэмігіюш Дутковяк, які страляў шэсьцсот на шэсьцсот, максімальна. І я стаў ездзіць да яго на кансультацыі. І ўсё рабіў так, як рабілі сапраўдныя майстры, чэмпіёны.

**— Арганізацыйныя справы Вы таксама закранялі?**

— Не, толькі пра стральбу была мова. Ну, а пасля, калі я ўсвядоміў, што ў якасці настаўніка я не задаволю сваіх спадзяванняў, на тую зарплату ў дваццаць долараў, што не зараблю, не назбіраю ні на самаход, ні на што, то асталася хаця прага прызнання, што хаця за нешта пахваляць, пахлопаюць па плячы, што добры трэнер. І я так падсвядома падаўся ў тое стралецтва, каб хаця за гэта мяне шанавалі. І так сталася, што ў 1986 годзе мае пільскія падапечныя ўпершыню выйгралі чэмпіянат Польшчы сярэдніх школ. І неўзабаве мы пераехалі жыць у Беласток; жонка знайшла аб'яву пра замену кватэры ў Беластоку на Пілу. Пераехалі сюды на больш сціплыя ўмовы; і я зараз падаўся на байніцу, надалей пад крыламі Лігі абароны краіны, бо толькі гэтая арганізацыя ладзіла стралецкія мерапрыемствы. І сёння яна надалей вядзе гэтую справу.



**— У Вас была ўжо нейкага роду рэкамендацыя?**

— Такая рэкамендацыя, што ўзяў каманду з „Электрыка” і яны адразу выйгралі. І як пабачыў, што ў ЛОКу ўжо вельмі цесна ў сэнсе далейшага развіцця — бо ўсе рашэнні прымаліся ў Варшаве, не на месцы, тады я вырашыў заснаваць той свой клуб. Падсмейваліся з мяне: што то такое, якісь вучнёўскі клуб, нешта інфантыльнае. А я і не вельмі цяміў за што бяруся — не было такога розуму як сёння... І слава Богу, што не ведаў, што штосьць немагчыма зрабіць... Бо ёсць такі анекдот, што сабраліся ў Лондане вучоныя і заявілі, што чмель не ў змозе лётаць: затоўсты, запоўны, замалыя крылы ў яго. Але ніхто не ведаў чмялінай мовы і не паведаміў чмялю пра гэта. І чмель як лятаў раней, так і далей лятаў. І я быў быццам той чмель, смяяліся з мяне, што ўсе мае задумы нерэальныя. Але нерэальнае стала рэальнасцю. А калі мары буйныя, то факты не лічацца.

**— Вы сталі на сваё, базіруючы ў Комплексе драўнінна-механічных школ?**

— Я працаваў у „Электрыку”; там зрабіў сваю першую байніцу. Я прачытаў у адным агульнапольскім часопісе артыкул, што ў школьнай зале можна зладзіць байніцу. Там была такая канторка і мы там зладзілі стралецкія стэнды для пнеўматычнай стральбы. У 1990-х гадах я ад школы крыху адхіліўся, адышоў у бізнес, а ў 1996 годзе вярнуўся ў Комплекс металёва-драўнінных школ; нібы на год, а быў пятнаццаць гадоў. Да 2007 года, а пасля перайшоў у IV ліцэй, дзе быў спартыўны клас. І раней у Комплексе таксама зладзіў байніцу з пяці стэндамі, у падвале. І ўжо туды сталі прыязджаць алімпійскія прызёры. І такі зрух у горадзе зрабіўся, што прыехалі такія людзі і ходзяць тут у нас па падвалах. Ну і з'явілася думка зладзіць сапраўдную байніцу. А паколькі ў прафвучылішчы прыходзіла штораз менш моладзі, то адзін з віцэ-прэзідэнтаў сказаў, што аформіць грошы на рамонт таго паверха ў школьным будынку. І да мінулага года мы тут беспраблемна трэніравалі. Цяпер маем тут усялякія рамонты. Але вяртаючыся крыху назад, пачалі ладзіць спаборніцтвы, сталі прыязджаць спартсмены, спярша ў ролі гасцей, з Беларусі — Іра Шылава, алімпійская чэмпіёнка з Сеула, Косця Лукашык, алімпійскі чэмпіён з Барселоны, Ігар Басінскі, алімпійскі медаліст. І тыя людзі сталі сюды прыязджаць, падтрымалі нас памаленьку, горад знайшоў грошы, зладзілі байніцу, на адкрыццё прыехала Рэната Мауэр-Ружаньска, двухкратная алімпійская чэмпіёнка, а пасля яна прыязджала штогадова. І як той Polish Open у нас раскруціўся, то яна двойчы выехала ад нас самаходам. І так стала прыязджаць уся Еўропа; Беларусь і Украіна то здаўна; Літва, Латвія, Эстонія, фіны, Ізраіль, Аўстралія, Францыя, Германія...

**— А як Вы задумалі той Polish Open?**

— Ён адразу такі не быў, так як чалавек — родзіцца маленькі і з такога расце. Мне падказвала інтуіцыя, мудрыя жыццёвыя настаўнікі падказалі, што калі хочаш дабіцца поспеху, то мусіш знайсці ікону таго мерапрыемства і падружыць з ёю. І такой асобай стала Рэната; яна стала штогадова прыязджаць, а калі прыязджала яна, то з кожным годам стала прыязджаць усё больш і больш нашых, з Польшчы. Была Беларусь, трэнер беларускай зборнай Басінскі прывёз свайго друга Анатоля Куксу з Украіны, той прывёз аўтобус „зборнікаў” украінскіх. І так сталі расказваць адзін за другім, што гэта файнае мерапрыемства. А пра Беласток вырашаюць мясцовыя людзі і тыя госці адчуваюць добрую тут атмасферу. Мы не робім гэтага дзеля грошай ці прыбытку, толькі як свята стралковага спорту для ўсяго свету. З Германіі прыязджае Крыстыян Рэйц, гэта ж такая абсалютная ікона сённяшняга стралецтва, алімпійскі чэмпіён з Рыо, два гады таму ён выйграў наша спаборніцтва. Ён прыязджае тыдзень да пачатку спаборніцтва. Бывае ў Белавежы, крышку ў нас патрэніруе, сустракаецца з нашай моладдзю.

**— А калі адбываецца Polish Open Kaliber?**

— Заўсёды ў апошнія выхадныя лістапада. Апошні выйграў француз.

**— Галоўны прыз гэта самаход. Важнае спонсарства...**

— Найлепшы спонсар гэта горад Беласток. І маршалак. Трэба ўлічваць, што гэта найбуйнейшае лагістычнае мерапрыемства ладжанае ў Беластоку. І фірмы нас спансаруюць на розных асновах. І трэба сапраўды старацца.

**— Дзе адбываецца Polish Open Kaliber?**

— У Комплексе сельскагаспадарчых школ у Дайлідах.

**— Ёсць там байніца?**

— Гэта чарговы выклік. Калі ёсць канкрэтны брэнд, то тады і штораз больш ахвотных дапамагаць. Тут і работнікі, і лекары, і юрысты, і прадпрымальнікі ангажуюцца. Прыходзяць у сераду, бо нашы спаборніцтвы пачынаюцца з чацвярга. У шэсць гадзін вечара яшчэ адбываюцца нармальныя ўрокі ў той зале. А ўжо ў палове сёмай уваходзім мы і прывозім тоны таго абсталявання і ставім яго часам да другой гадзіны ночы, а часам і да восьмай раніцы, каб зрабіць са спартыўнай залы байніцу. Мноства людзей нам дабравольна памагае і мы ім за гэта вельмі ўдзячныя. А да поўні шчасця не хапае нам толькі ўдзелу нашых выхаванцаў у алімпіядзе.

**— А якая розніца паміж агнястрэльнай зброяй і пнеўматычнай?**

— У пнеўматычнай зброі снарад наганяе сціснутае ў балоне паветра. І гэтага хапае, каб снарад вылятаў са скорасцю 180 метраў у секунду. І можа перабіць кардон у два міліметры. А патрон з агнястрэльнага спартыўнага карабінка пераб'е пяцісантыметровую дошку. Таму ў нас папулярная пнеўматычная стральба, бо тут непатрэбны нейкія тоўстыя сцены, адлегласць усяго дзесяць метраў.

**— У вас шмат падзяк з замежжа, напрыклад ад украінскай зборнай.**

— Мы вучымся ад сябе ўзаемна. Людзі з замежжа прыязджаюць да нас і бачаць сэнс у гэтых прыездах. Тыя выхаванцы, якія сюды прыязджаюць, едуць на алімпіяды і там заваёўваюць медалі. Сярожа Куліш гэта такі пацан быў, калі я яму майку „Калібра” падарыў у Львове. Можа яму тады было чатырнаццаць гадоў, а ў Рыо стаў сярэбраным прызёрам. Напрыклад, калі прыязджае Крыстыян Рэйц, чаму можна ад яго навучыцца: у суботу ён яшчэ ў Кітаі на спаборніцтвах. У нядзелю ён ужо ў Германіі, мяняе вопратку і ўсё іншае і ў панядзелак ён ужо ў Беластоку кватаруецца. У аўторак з самай раніцы ён на першай трэніроўцы, дзве гадзіны, пасля абеду чарговая трэніроўка — тры гадзіны. У пяць сустракаецца з нашай моладдзю. У сераду зноў трэніроўка і ў чацвер ужо спаборніцтвы. Хтось сказаў бы, што такому чэмпіёну навошта столькі трэніравацца. А ён прыязджае і ад аснову ўсё, так як з пачатку прывучыўся. І варта прыглянуцца такім людзям, якія ў іх адносіны да працы, якая этыка ў іх, і з чаго бяруцца эфекты. Дзеля гэтага пытанні высілак, гэта не тое, што вось так удалося.

**— А з якімі замежнымі асяродкамі Вы супрацоўнічаеце?**

— Львоў і Чаркасы на Украіне, Гродна і Берасце ў Беларусі, Аліту с і Вільня ў Літве, Доўбуле ў Латвіі, Эльва ў Эстоніі, Дамадзедава ў Расіі. Але самыя галоўныя гэта Львоў, Чаркасы, Гродна і Берасце.

**— А ў Польшчы?**

— Тут ездзім у прынцыпе толькі туды, дзе праводзяцца спаборніцтвы — Вроцлаў, Быдгашч.

**— Дзякую за размову і жадаю далейшых поспехаў.**

Пытанні і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 02